# ЗМЕСТ

# ГОД З НОВЫМ ЗАКОНАМ “Аб сродках масавай інфармацыі”
# (развіццё сітуацыі ў сферы СМІ і статыстыка)

**8 лютага 2010 г.** споўніўся год з моманту ўступлення ў сілу новага закона "Аб сродках масавай інфармацыі". Найбольшую занепакоенасць экспертаў выклікалі наступныя палажэнні закона:

– перарэгістрацыя існуючых сродкаў масавай інфармацыі;
– рэгістрацыя і рэгуляванне дзейнасці Інтэрнет-СМІ;
– узмацненне адказнасці СМІ і журналістаў (паводле закона судовае спыненне дзейнасці СМІ магчыма нават у выпадку аднаразовага грубага парушэння заканадаўства альбо пасля двух папярэджанняў за любыя, нават самыя малаважныя, парушэнні);
– заканадаўчае замацаванне патрабавання акрэдытацыі для журналістаў замежных СМІ і аб'ява дзейнасці без акрэдытацыі незаконнай.

Разам з тым, эксперты адзначалі некаторую палёгку правіл рэгістрацыі новых друкаваных сродкаў масавай інфармацыі (у адрозненне ад раней існуючага парадку, зараз не патрабуецца атрымання згоды мясцовых уладаў на заснаванне СМІ).

Маніторынг ужывання закона "Аб сродках масавай інфармацыі", які ажыццяўляе ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў", сведчыць пра наступнае:

**- Перарэгістрацыя існуючых сродкаў масавай інфармацыі, якая завяршылася 8 лютага, прайшла, у цэлым, без канфліктаў** (хоць зафіксаваныя і выпадкі адмовы ў перарэгістрацыі).

Разам з тым, не ўсе СМІ своечасова накіравалі дакументы на перарэгістрацыю. У выніку на 1 лютага 2010 г. перарэгістрацыю прайшлі 67,3% друкаваных СМІ (733 выданні), а недзяржаўных - 72,1% (527 выданняў). Сітуацыя ў сферы электронных СМІ некалькі горшая. Перарэгістрацыю на 1 лютага прайшлі 52,8 % радыё- і тэлепраграм (121), а недзяржаўных - 62,9 % (39). З 6 зарэгістраваных на момант уступлення ў сілу закона "Аб СМІ" інфармацыйных агенцтваў на 1 лютага перарэгістраваныя 5 (усе 5 - недзяржаўныя).

Нягледзячы на тое, што за тыдзень да заканчэння перарэгістрацыі яе прайшлі трохі больш за палову дзяржаўных СМІ, не выклікае сумненняў, што большасць з іх зможа працягнуць сваю дзейнасць у далейшым.

**- Са жніўня 2009 г. пачалі ўзнікаць праблемы з рэгістрацыяй новых СМІ**

Прагрэс у сферы заснавання новых сродкаў масавай інфармацыі, які назіраўся на працягу першых сямі месяцаў дзеяння закона, змяніўся неабгрунтаванымі адмовамі Міністэрства інфармацыі зарэгістраваць новыя агульнапалітычныя СМІ. З такімі адмовамі сутыкнуліся як мінімум 7 новых выданняў, прычым некаторыя з іх

атрымлівалі адмовы па некалькі разоў. Найбольш часта ў якасці прычыны ў рэгістрацыі СМІ Міністэрства інфармацыі называла недастатковую кваліфікацыю галоўнага рэдактара і размяшчэнне рэдакцыі СМІ па неналежным адрасе. Пры гэтым закон "Аб СМІ" такіх падстаў для адмовы ў рэгістрацыі не прадугледжваў і нават не патрабаваў указання адпаведных звестак у заяве аб рэгістрацыі СМІ. 7 кастрычніка Міністэрства інфармацыі змяніла форму заявы аб рэгістрацыі СМІ, уключыўшы ў яго (у парушэнне закона "Аб СМІ") і звесткі аб кваліфікацыі галоўнага рэдактара, і аб памяшканні, у якім размяшчаецца рэдакцыя СМІ.

На працягу першага года дзеяння закона "Аб СМІ" былі зарэгістраваныя 152 друкаваных СМІ (з іх 119 недзяржаўных) і 11 электронных СМІ (4 радыё- і тэлепраграмы), у тым ліку 7 недзяржаўных.

Большасць з зарэгістраваных выданняў і тых, якія прайшлі перарэгістрацыю, з'яўляюцца забаўляльнымі, рэкламнымі і г.д.

Па падліках БАЖ, агульнапалітычных недзяржаўных выданняў у краіне менш за 30. У сферы электронных медыя па-ранейшаму назіраецца перавага дзяржаўных СМІ (86 супраць 46 недзяржаўных). Аднак і недзяржаўныя тэле- і радыёпраграмы знаходзяцца пад цвёрдым кантролем нацыянальных і мясцовых уладаў.

**- Выпуск маланакладных выданняў, якія не падлягаюць рэгістрацыі, ускладніўся**

Закон ускладніў выпуск незарэгістраваных маланакладных выданняў (у адпаведнасці з ім не патрабуецца рэгістрацыя перыядычных сродкаў масавай інфармацыі, якія выходзяць у свет накладам не больш за 299 асобнікаў). На іх распаўсюджваецца патрабаванне аб публікацыі выходных дадзеных і рассылцы абавязковага бясплатнага асобніка выдання. Так, напрыклад, выданні, якія распаўсюджваюцца ў Беларусі накладам ад 10 да 99 асобнікаў, павінныя бясплатна рассылацца ў 5 дзяржаўных органаў і ўстаноў. Больш за тое, у адным выпадку пракуратура папярэдзіла выдаўца незарэгістраванага маланакладнага выдання ("Бойкий Клецк") за тое, што ён не зарэгістраваў для выпуску гэтай газеты рэдакцыю як юрыдычную асобу. Пракуратура Мінскай вобласці і Генеральная пракуратура пакінулі папярэджанне ў сіле.

**- Улады вярнуліся да нарматыўнага рэгулявання дзейнасці ў Інтэрнеце**

У адпаведнасці з законам аб СМІ ўраду перададзеныя паўнамоцтвы на выданне прававога акту аб рэгістрацыі і рэгуляванні дзейнасці Інтэрнет-СМІ (пры адсутнасці ў законе азначэння, якія менавіта рэсурсы трапляюць пад гэты тэрмін). Гэта выклікала сур'ёзную крытыку як унутры краіны, так і з боку еўрапейскіх структур. У канцы 2008 г. пасля некалькіх круглых сталоў з удзелам прадстаўнікоў улады, АБСЕ, журналісцкай супольнасці, распрацоўка пастановы ўрада аб рэгуляванні дзейнасці Інтэрнет-СМІ была прыпыненая, што неаднаразова адзначалася як пазітыўны факт.

Аднак з канца 2009 г. заявы афіцыйных асобаў пра неабходнасць рэгуляваць беларускі сегмент Сусветнай Сеткі ўзнавіліся. І 1 лютага 2010 г. быў падпісаны прэзідэнцкі ўказ № 60 "Аб мерах па ўдасканаленні выкарыстання нацыянальнага сегмента сеткі Інтэрнет". Указ прадугледжвае рэгістрацыю Інтэрнет-рэсурсаў, якія

аказваюць Інтэрнет-паслугі ў Беларусі, ідэнтыфікацыю падключаных да Інтэрнету камп’ютараў, улік і захоўванне персанальных дадзеных карыстальнікаў інтэрнет-паслуг і звестак пра Інтэрнет-паслугі, аказаныя пунктамі калектыўнага карыстання інтэрнет-паслугамі.

Нягледзячы на тое, што Інтэрнет-СМІ ва ўказе не згадваюцца, ён распаўсюджваецца і на іх, бо прадугледжвае магчымасць блакавання сайтаў, якія распаўсюджваюць забароненую альбо непажаданую інфармацыю. Указ уступіць у сілу 1 ліпеня 2010 г., за паўгода з невялікім да прэзідэнцкіх выбараў у Рэспубліцы Беларусь.

**- Закон даў дзяржаўным органам празмерныя магчымасці ўмешвацца ў журналісцкую дзейнасць**

У першай палове 2009 г. ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" адзначала, што Міністэрства інфармацыі не злоўжывала сваімі шырокімі паўнамоцтвамі па прымяненні санкцый да сродкаў масавай інфармацыі (аднак свае паўнамоцтвы па ўмяшальніцтве ў журналісцкую дзейнасць актыўна выкарыстоўвала пракуратура). Да канца года сітуацыя пагоршылася. 16 і 17 лістапада 2009 г. Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанні адразу чатыром уплывовым выданням: газетам "Народная воля", "Наша Ніва", "Комсомольская правда” в Белоруссии" і "Ва-Банкъ", а 24 снежня - другое папярэджанне газеце "Народная воля". Між тым, два папярэджанні (вынесеныя нават за самыя неістотныя памылкі) з'яўляюцца падставай для судовага закрыцця сродку масавай інфармацыі. Такім чынам, вядучая незалежная газета "Народная воля" ужо знаходзіцца пад пагрозай закрыцця, а тры іншыя пералічаныя выданні - у кроку ад яго. Той факт, што зыскаў аб закрыцці газет, пакуль не было, не павінен супакойваць: прававая база для гэтага створаная.

Органы пракуратуры і Камітэта дзяржаўнай бяспекі на працягу года вынеслі каля 20 папярэджанняў журналістам, пераважна тым, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ (пры тым, што Міністэрства замежных спраў адмаўлялася акрэдытоўваць журналістаў тэлеканала "Белсат" і "Радыя Рацыя").

**- Беларускія ўлады працягвалі перашкаджаць дзейнасці на тэрыторыі краіны замежных СМІ, якія вяшчаюць на Беларусь**

11 лістапада 2009 г. беларускі МЗС дазволіў адкрыць карэспандэнцкі пункт “Еўрапейскага радыё для Беларусі” і акрэдытаваў 12 яго журналістаў і тэхнічных супрацоўнікаў. Аднак дзейнасць "Радыё Рацыя" і тэлеканала "Белсат" у Беларусі застаецца пад забаронай. На пачатку снежня 2009 г. "Белсату" было ў чарговы раз адмоўлена ў дазволе адкрыць свой карэспандэнцкі пункт у Мінску. 3 лютага 2010 г. супрацоўнікі сілавых структур паспрабавалі ўварвацца ў кватэру, якую здымае прадстаўнік “Белсата”. Адзін з журналістаў, Іван Шульга, быў затрыманы з надуманай прычыны і 4 лютага асуджаны на 10 сутак адміністратыўнага арышту.

**- Закон не забяспечыў ні прававой абароненасці журналістаў, ні іх доступу да інфармацыі**

У верасні і кастрычніку 2009 г. супрацоўнікі праваахоўных органаў з ужываннем сілы перашкаджалі журналістам ажыццяўляць свае прафесійныя абавязкі на акцыях пратэсту (гл. фота http://baj.by/m-p-viewpub-tid-1-pid-7371.html). 29 кастрычніка журналісты Уладзімір Грыдзін і Юлія Дарашкевіч былі затрыманыя больш чым на 4 гадзіны, міліцыянты правялі дагляд іх рэчаў, У. Грыдзін быў збіты (гл. відэа **http://baj.by/m-p-viewpub-tid-10-pid-168.html**). Своеасаблівым адказам на патрабаванне ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" прыцягнуць вінаватых у парушэнні правоў журналістаў да адказнасці сталі затрыманне І. Шульгі і спробы міліцыі ўварвацца ў кватэру прадстаўніка “Белсата”.

13 студзеня 2010 г. Міністэрства юстыцыі вынесла папярэджанне ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў". Прэтэнзіі міністэрства выклікалі той факт, што арганізацыя выдавала сваім сябрам пасведчанні са словам "Прэса", а таксама дзейнасць Цэнтра прававой абароны СМІ пры ГА "БАЖ". Парламенцкая Асамблея Рады Еўропы ў сваёй рэзалюцыі ад 27 студзеня 2010 г. (**http://assembly.coe.int/Mainf.asp?link=/Documents/AdoptedText/ta10/eREC1897.htm**) назвала папярэджанне Мінюста выклікам міжнародна прызнанай дзейнасці асацыяцыі па абароне інтарэсаў журналістаў і свабоды слова.

**- Закон не забяспечыў доступу журналістаў, - а значыць, і грамадства - да інфармацыі**

Паўсюдна журналісты сутыкаюцца з адмовамі ў прадастаўленні інфармацыі без згоды ідэалагічных супрацоўнікаў. Актамі заканадаўства, прынятымі ў апошні час, вызначаныя абмежаванні на падаванне дзяржаўнымі службоўцамі інфармацыі журналістам. Так, у закон "Аб дзяржаўнай службе" ўнесеныя змены, у адпаведнасці з якімі дзяржаўныя службоўцы павінны ўзгадняць свае выступы ў СМІ з кіраўніком дзяржаўнага органа. Указам прэзідэнта №65 зацверджана, што ў дзяржаўных органах і арганізацыях вызначаюцца асобы, якія павінны даваць СМІ афіцыйную інфармацыю; яны падпарадкоўваюцца непасрэдна кіраўнікам органаў і арганізацый, іх дзейнасць кантралюецца Адміністрацыяй прэзідэнта.

**- Захоўваецца эканамічная дыскрымінацыя незалежных выданняў**

Беларускія дзяржаўныя прадпрыемствы сістэм "Белпошта" і "Саюздрук" па-ранейшаму адмаўляюцца распаўсюджваць практычна палову з зарэгістраваных незалежных грамадска-палітычных выданняў (з 25-ці існуючых). Вяртанне ў гэтыя сістэмы распаўсюду ў канцы 2008 г. газет "Народная воля" і "Наша Ніва", а таксама "Бобруйского курьера" і "Ганцавіцкага часу" ў 2009 г. - пазітыўныя моманты, якія, аднак праблемы ў цэлым не вырашылі. Больш за 10 незалежных выданняў па-ранейшаму выкінутыя з дзяржаўных сістэм распаўсюду. Пры гэтым дзяржаўныя СМІ працягваюць атрымліваць падтрымку з дзяржбюджэту (якая некалькі паменшылася ў параўнанні з папярэднімі гадамі і запланаваная ў памеры 58 млн. долараў ЗША), падатковыя ільготы і адміністратыўныя прэферэнцыі. На пачатку 2010 г. стала вядома пра ціск з боку ўладаў на буйных рэкламадаўцаў, якія супрацоўнічаюць з недзяржаўнымі СМІ.

**Высновы:**

**Практыка ўжывання закона "Аб сродках масавай інфармацыі" на працягу першага года з моманту яго ўступлення ў сілу сведчыць, што:**

- улады па-ранейшаму імкнуцца захаваць кантроль над інфармацыйнай прасторай Беларусі;
- пазітыўныя зрухі ў сферы СМІ, якія назіраліся напрыканцы 2008 г. - пачатку 2009 г., не насілі сістэмнага і незваротнага характару, што пацвярджае наступнае пагаршэнне сітуацыі;
- - прававая база існавання СМІ ў Беларусі пасля прыняцця закона і шэрагу іншых нарматыўна-прававых актаў у сферы СМІ пагоршылася. Аднак сітуацыю ў сферы СМІ вызначае, у першую чаргу, не заканадаўства, а практыка яго ўжывання, якая залежыць як ад унутрыпалітычнай сітуацыі ў краіне, так і ад знешнепалітычных фактараў (набліжэнне выбараў, з аднаго боку, і працяг дыялогу з еўрапейскімі структурамі, з іншага).

# ЗМЕНЫ Ў ЗАКАНАДАЎСТВЕ

**10 студзеня 2009 г.** Міністэрства інфармацыі прыняло пастанову №4 **"Аб арганізацыі выдачы дазволаў на распаўсюд прадукцыі замежных сродкаў масавай інфармацыі ў Міністэрстве інфармацыі"**. Пастанова вызначае парадак работы ўпраўленняў і службовых асобаў міністэрства па выдачы згаданых дазволаў. (У адпаведнасці з арт. 17 закона "Аб сродках масавай інфармацыі" распаўсюд замежных СМІ ў Беларусі дапускаецца толькі пасля дазволу Міністэрства інфармацыі).

**12 студзеня** Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастановай №24 падоўжыў тэрмін дзеяння пасведчання аб адкрыцці **прадстаўніцтва Федэральнага дзяржаўнага ўнітарнага прадпрыемства** "**Всероссийская государственная телевизионная и радиовещательная компания**" (Расійская Федэрацыя) у Рэспубліцы Беларусь з 9 студзеня 2009 г. па 9 студзеня 2012 г.

**23 студзеня** Міністэрства інфармацыі прыняло пастанову №1 **"Аб парадку перарэгістрацыі сродкаў масавай інфармацыі ў сувязі з прыняццем Закона Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі"**.

Пастанова вызначыла, што перарэгістрацыя ажыццяўляецца міністэрствам у заяўным парадку на працягу 3 працоўных дзён. У выпадку, калі сродак масавай інфармацыі не прайшоў перарэгістрацыю да 8 лютага 2010 г., раней выдадзенае пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі анулюецца.

**6 лютага** Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў указ № 60 **"Аб некаторых пытаннях перарэгістрацыі сродкаў масавай інфармацыі"**. У адпаведнасці з указам дзяржаўная мыта за перарэгістрацыю сродкаў масавай інфармацыі ў сувязі са зменай заканадаўства Рэспублікі Беларусь не спаганяецца. Абавязковая перарэгістрацыя СМІ абвешчаная законам "Аб сродках масавай інфармацыі", які ўступіў у сілу 8 лютага 2009 г.

**6 лютага** Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў указ № 65 **"Аб удасканаленні працы дзяржаўных органаў, іншых дзяржаўных арганізацый са сродкамі масавай інфармацыі"**.

Указ вызначыў, што права падаваць сродкам масавай інфармацыі афіцыйныя звесткі пра дзейнасць дзяржаўнага органа (арганізацыі) маюць толькі яго кіраўнік і яго намеснікі, а таксама па ўзгадненні з кіраўніком - асобы, адказныя за працу са СМІ (якія вызначаюцца кіраўніком дзяржаўнага органа).

Каардынацыю і маніторынг дзейнасці асобаў, адказных за працу са СМІ, ажыццяўляе Адміністрацыя Прэзідэнта.

**8 лютага** ўступіў у сілу закон **"Аб сродках масавай інфармацыі"**.

**25 лютага** Бабруйскі гарадскі выканаўчы камітэт рашэннем № 5-35 зацвердзіў **Палажэнне аб парадку акрэдытацыі прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі пры Бабруйскім гарадскім выканаўчым камітэце**.

Заява аб акрэдытацыі журналістаў разглядаецца аддзелам ідэалагічнай працы Бабруйскага гарадскога выканаўчага камітэта. Адной з падстаў для адмовы ў акрэдытацыі з'яўляецца папярэджанне Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,

вынесенае на адрас рэдакцыі на працягу 12 месяцаў, якія папярэднічалі звароту па акрэдытацыю.

**26 сакавіка** Віцебскі абласны выканаўчы камітэт рашэннем № 166 зацвердзіў **Палажэнне аб абласной экспертнай камісіі па прадухіленні прапаганды парнаграфіі, гвалту і жорсткасці**.

**5 траўня** Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь зацвердзіў пастановай № 593 **Палажэнне аб парадку набыцця абсталявання для друку**.

Набыццё абсталявання для друку (за выключэннем пералічанага ў пастанове) для ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці дапускаецца пасля атрымання дазволу Міністэрства інфармацыі.

**6 ліпеня** пастановай № 12 Міністэрства інфармацыі зацвердзіла **Пералік тэлепраграм, якія ўваходзяць у абавязковы агульнадаступны пакет**. Згаданыя праграмы абавязковыя для ўсіх аператараў кабельнага тэлебачання.

У абавязковы агульнадаступны пакет уключаныя тэлепраграмы "Першы канал", "Другі нацыянальны тэлеканал", "Сталічнае тэлебачанне", "Лад", "Россия-Беларусь" і "НТВ-Беларусь". "Сацыяльны пакет" абавязковых для распаўсюду тэлепраграм не працярпеў істотных зменаў з 2003 г., толькі месца расійскіх каналаў "РТР" ("Россия") і "НТВ" занялі " Россия-Беларусь" і "НТВ-Беларусь".

**25 верасня** Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ №478 **"Аб дзяржаўнай падтрымцы тэлерадыёкампаній"**, якім вызваліў ЗАТ "Другі нацыянальны тэлеканал" (ОНТ) і ЗАТ "Сталічнае тэлебачанне" (СТВ) з 1 кастрычніка 2009 г. па 31 снежня 2012 г. ад выплаты падаткаў на прыбытак і дабаўленую вартасць. Акрамя таго, указам рэкамендавана Мінгарвыканкаму вызваліць СТВ ад выплаты мясцовых падаткаў. "Афшорны" статут СТВ атрымаў ў 2003 г. (указ №92 ад 11 сакавіка 2003 г.). Яго тэрмін у 2006 г. быў падоўжаны ды канца 2009 года. ОНТ атрымаў гэткую дзяржпадтрымку ў 2007 г. (указ №6 ад 5 студзеня 2007 года).

**7 кастрычніка** пастановамі №№ 17 і 18 Міністэрства інфармацыі ўнесла змены **ў формы заявы аб дзяржаўнай рэгістрацыі СМІ і Дзяржаўнага рэестру сродкаў масавай інфармацыі**, чым вызначыла дадатковыя, не прадугледжаныя законам, перашкоды для рэгістрацыі СМІ.

Пералік звестак, згаданых у заяве аб дзяржаўнай рэгістрацыі СМІ, і дакументаў, якія да яе прыкладаюцца, вызначаныя Законам "Аб сродках масавай інфармацыі". У адпаведнасці з арт. 12 закона Міністэрства інфармацыі вызначае толькі форму гэтай заявы. Тым не менш, Міністэрства інфармацыі пастановай № 17 запатрабавала ўключэння ў заяву аб рэгістрацыі СМІ шэрагу звестак, не прадугледжаных законам. У прыватнасці - пра адпаведнасць галоўнага рэдактара кваліфікацыйным звесткам (5 гадоў працы на кіруючай пасадзе і вышэйшая адукацыя) і пра рэгістрацыю рэдакцыі СМІ толькі ў нежылым памяшканні (у той час, калі заканадаўства дазваляе рэгістрацыю ўнітарных прадпрыемстваў па хатнім адрасе заснавальніка). Аналагічныя змены ўнесеныя і ў Дзяржаўны рэестр сродкаў масавай інфармацыі (пастанова №18 ад 07.10.2009 г.). Акрамя таго, Дзяржаўны рэестр і форма заявы дапоўненыя звесткамі пра крыніцы фінансавання СМІ.

**23 кастрычніка** ўказам № 523 Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь **вызваліў Нацыянальную дзяржаўную тэлерадыёкампанію і арганізацыі, якія ўваходзяць у**

**ае сістэму, ад выплаты падаткаў на прыбытак і на дабаўленую вартасць** на перыяд з 1 кастрычніка 2009 г. па 31 снежня 2012 г.

**11 лістапада** Савет Міністраў прыняў пастанову № 1463 **"Аб адкрыцці ў Рэспубліцы Беларусь карэспандэнцкага пункта таварыства з абмежаванай адказнасцю "Еўрапейскае радыё для Беларусі" (Рэспубліка Польшча)"**.

Дазвол на адкрыццё карэспандэнцкага пункта "Еўрапейскага радыё для Беларусі" (Рэспубліка Польшча) выдадзены на адзін год.

**29 снежня** зацверджаны **рэспубліканскі бюджэт на 2010 г.** (закон №73-3).

На фінансаванне сродкаў масавай інфармацыі, якія датуюцца дзяржавай, у рэспубліканскім бюджэце запланавана 167 185 329, 2 тыс. руб. (каля 58 млн. долараў ЗША). З іх большая частка накіраваная на тэлебачанне і радыёвяшчанне (130 316 443,3 тыс. руб., альбо больш за 44 млн. долараў). На фінансаванне перыядычнага друку і выдавецтваў вылучана 16 711 223 тыс. руб., і на іншыя пытанні ў вобласці сродкаў масавай інфармацыі - 20 157 663 тыс. руб.

У параўнанні з "дакрызісным" 2009 г. сума, вылучаная на фінансаванне СМІ з рэспубліканскага бюджэту, паменшылася (тады яна складала 193 211 376 тыс. руб., альбо больш за 90 тыс. долараў ЗША) і вярнулася ў доларавым эквіваленце на ўзровень 2006 г.

# ПАРУШЭННІ ПРАВОЎ СМІ І ЖУРНАЛІСТАЎ, КАНФЛІКТЫ Ў СФЕР СМІ

## Выклікі ў пракуратуру, папярэджанні пракуратуры і Міністэрства інфармацыі

**2 лютага** стала вядома, што генеральны пракурор РБ **Рыгор Васілевіч** пакінуў у сіле афіцыйныя папярэджанні, вынесенныя 16 снежня 2008 г. кіраўніку Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі **Анатолю Лябедзьку** і актывісту моладзевага крыла АГП «Маладыя дэмакраты» **Міхаілу Пашкевічу** па артыкулах 367 і 369 Крымінальнага кодэкса (паклёп у дачыненні да прэзідэнта і дыскрэдытацыя РБ адпаведна), а таксама арт. 40 Закона «Аб друку і іншых СМІ» (абавязак правяраць праўдзівасць звестак, якія публікуюцца ў СМІ).

Нагадаем, пракуратура палічыла, што палітыкі маюць дачыненне да выпуску і інфармацыйнага напаўнення незарэгістраванай газеты «**Глоток воздуха**». Папярэджанне падпісаў намеснік генеральнага пракурора РБ **Аляксей Стук**. Нагодай санкцыі стаў артыкул «Секретная продажа оружия (Чью задницу прикрывает Генеральная прокуратура)», што быў апублікавана ў газеце «Глоток воздуха» № 1 (11) за 2008 г. Палітыкі, у сваю чаргу, адмаўлялі сваю спрычыненасць да гэтага выдання і спрабавалі абскардзіць папярэджанне на імя генеральнага пракурора, але безвынікова.

**24 лютага** незалежная журналістка з Гомеля **Таццяна Бублікава** атрымала папярэджанне пракуратуры аб недапушчальнасці парушэння артыкула 35 ч. 4 Закона «Аб сродках масавай інфармацыі», які забараняе прафесійную дзейнасць журналістаў замежных СМІ на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь без акрэдытацыі пры Міністэрстве замежных спраў РБ.

У дакуменце за подпісам намесніка пракурора Гомельскай абласной пракуратуры **Генадзя Раманюка** паведамлялася, што праведзенай праверкай вызначана, што Т. Бублікава ў лістападзе 2008 г., не маючы акрэдытацыі ў якасці карэспандэнта замежнага СМІ, "ажыццяўляла журналісцкую дзейнасць на карысць польскага спадарожнікавага тэлеканала **"Белсат".**

Папярэджанне журналістцы ўручылі ў пракуратуры, куды выклікалі павесткай у якасці сведкі. Пракурор **Алеся Рабцава** паведаміла, што праводзіць праверку з нагоды зваротаў грамадзянак **Валянціны Маісеенкі** і **Наталлі Ягоравай**. Тыя паскардзіліся, што без іх згоды па тэлеканале "Белсат" было паказанае інтэрв'ю, якое яны давалі журналістам Т. Бублікавай і **Алегу Ражкову**. У адказ Т. Бублікава патлумачыла, што працуе ў якасці журналіста з 2002 г. і звярнула ўвагу пракурора на тое, што не мае афіцыйнага статусу супрацоўніка "Белсат" і ад імя гэтага тэлеканала нідзе не выступала.

**4 сакавіка** гомельскі журналіст **Алег Ражкоў** атрымаў па пошце афіцыйнае папярэджанне Гомельскай абласной пракуратуры «за ажыццяўленне журналісцкай дзейнасці на карысць польскага спадарожнікавага тэлеканала "**Белсат**" без адпаведнай акрэдытацыі. У дакуменце, датаваным **24 лютага**, за подпісам намесніка пракурора **Г. Раманюка** гаварылася, што пракуратура правяла праверку з нагоды зваротаў грамадзянак В. Маісеенкі і Н. Ягоравай. Тыя паскардзіліся, што інтэрв'ю, якое яны давалі журналістам А. Ражкову і Т. Бублікавай, было ў лістападзе 2008 г. паказана па тэлеканале «Белсат», які «не зарэгістраваны ў вызначаным заканадаўствам парадку».

**16 сакавіка** Міністэрства інфармацыі накіравала ў рэдакцыю недзяржаўнай газеты **«Бобруйский курьер»** ліст, у якім патрабавала ад выдання “падрабязных тлумачэнняў” з нагоды артыкула “Из бараков — в трущобы”, апублікаванага ў лютым 2009 г. Міністэрства таксама хацела ведаць, ці былі ў газеты дакументы, якія пацвярджалі б праўдзівасць выкладзеных у публікацыі звестак. Па словах галоўнага рэдактара **Анатоля Санаценкі,** гэтай жа тэме было прысвечана некалькі рэпартажаў тэлеканалаў “**ОНТ**” і “**Лад**”, апублікавана два матэрыялы ў “**Комсомольской правде” в Белоруссии**”. Тым не менш, прэтэнзіі выклікала менавіта публікацыя ў “БК”. Нагодай для запыту Мініфармацыі стала чарговая скарга на газету з Бабруйскага гарвыканкама.

**29 красавіка** гродзенскі журналіст **Іван Роман** атрымаў ад Гродзенскага абласнога ўпраўлення КДБ афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння арт. 369-1 Крымінальнага кодэкса РБ - «Дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь». У той дзень спачатку І. Роману патэлефанаваў чалавек, які назваўся супрацоўнікам КДБ і прапанаваў сустрэцца «паразмаўляць». Калі журналіст адмовіўся сустракацца без афіцыйнай павесткі, праз пэўны час па яго прыехалі на машыне, уручылі павестку і адвезлі ва УКДБ.

Супрацоўнік КДБ Касцюкевіч і яшчэ адзін чалавек, які не назваў сябе, азнаёмілі І. Романа з папярэджаннем, але копію дакумента яму не далі. З паперы вынікала, што нагодай санкцыі сталі некалькі матэрыялаў І. Романа ў часопісе **«Magazyn Polski na uchodzstwie»** і на **«Радыё Рацыя»**, якія тычыліся эканамічнага становішча прадпрыемстваў Гродзенскага рэгіёна. Таксама ў папярэджанні паведамлялася, што гэтыя звесткі атрыманыя ў выніку правядзення аператыўна-пашуковых мерапрыемстваў.

І.Роман звярнуўся ва упраўлення КДБ па Гродзенскай вобласці і патрабаваў патлумачыць, з якой нагоды супраць яго праводзіліся аператыўна-пашуковыя мерапрыемствы, а таксама на якой падставе супрацоўнікі дзяржбяспекі лічаць, што ён прадастаўляе недакладныя звесткі замежным СМІ, дыскрэдытуючы такім чынам Беларусь. І. Роман прасіў даць адказ на прыкладзе канкрэтных публікацый. У сваім адказе (ад **23 ліпеня**) кіраўнік УКДБ **Ігар Сяргеенка** праігнараваў гэтыя патрабаванні і не патлумачыў прычыны вынясення афіцыйнага папярэджання журналісту. Супрацоўнік КДБ папярэдзіў журналіста, што «працяг указанай дзейнасці можа прывесці да здзяйснення злачынства, прадугледжанага арт. 369-1 КК РБ» («Дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь»).

**29 траўня** карэспандэнтка «**Радыё Рацыя**» **Тамара Шчапёткіна** атрымала адміністратыўнае пакаранне ў выглядзе вуснага папярэджання за «парушэнне грамадскага парадку падчас правядзення масавага мерапрыемства». (ч.1 арт. 23.34 КаАП). Такое рашэнне прыняў суд Бярозаўскага раёна (Брэсцкая вобласць), разгледзеўшы адміністратыўную справу журналісткі. Суд грунтаваўся на тым, што на момант затрымання ў яе было пратэрмінавана журналісцкае пасведчанне.

Т.Шчапёткіну затрымалі 26 красавіка ў горадзе Бяроза па дарозе з акцыі «Свечка памяці», прымеркаванай да гадавіны Чарнобыльскай аварыі, дзе яна выконвала свае прафесійныя абавязкі. Пасля яе адвезлі ў Бярозаўскі РАУС, дзе склалі пратакол затрымання.

**9 чэрвеня** грамадскі актывіст з Клецка **Сяргей Панамароў** атрымаў папярэджанне пракуратуры аб парушэнні арт.1 (п. 5 і 26), арт. 30 і арт. 17 (п.1) Закона «Аб сродках масавай інфармацыі». Раённы пракурор **Валерый Карабко** звінаваціў

журналіста ў тым, што ён, «не з’яўляючыся рэдактарам СМІ і не зарэгістраваўшыся ў якасці юрыдычнай асобы, на якую ўскладзеныя функцыі рэдакцыі, без праходжання дзяржаўнай рэгістрацыі… працягвае выдаваць друкаваны сродак масавай інфармацыі». Бюлетэнь **“Бойкий Клецк”,** за выданне якога атрымаў папярджанне С.Панамароў, выходзіў накладам 299 асобнікаў.

Праваабаронца **Раман Кісляк**, да якога Панамароў звярнуўся за кансультацыяй, лічыць патрабаванні пракуратуры незаконнымі, паколькі ў адпаведнасці з п.7.1 арт. 13 Закона «Аб СМІ» не патрабуецца дзяржаўнай рэгістрацыі друкаваных перыядычных выданняў, якія выходзяць накладам не больш за 299 асобнікаў. Патрабаванне спынення далейшага выхаду бюлетэня не грунтуецца на законе і парушае правы Панамарова, лічыць юрыст.

С.Панамароў абскардзіў папярэджанне.

**15 ліпеня** стала вядома, што абласная пракуратура прызнала абгрунтаваным папярэджанне, вынесенае **9 чэрвеня** Клецкай раённай пракуратурай **Сяргею Панамарову** — рэдактару маланакладнага рэгіянальнага бюлетэню «Бойкий Клецк». Пракурор Мінскай вобласці **Аляксандр Архіпаў** палічыў, што яго калега папярэдзіў С. Панамарова «законна і абгрунтавана”. На думку самога выдаўца, у сваіх дзеяннях улады кіруюцца жаданнем спыніць выхад адзінага ў раёне недзяржаўнага выдання.

**31 жніўня** стала вядома, што Генеральная пракуратура Беларусі пакінула ў сіле папярэджанне за парушэнне закона «Аб СМІ», вынесенае **9 чэрвеня** Клецкай раённай пракуратурай рэдактару рэгіянальнага бюлетэня «Бойкий Клецк» **Сяргею Панамарову**.

Нагадаем, раённы пракурор **Валерый Карабко** звінаваціў С. Панамарова ў тым, што ён, «не з’яўляючыся рэдактарам сродку масавай інфармацыі і не зарэгістраваўшыся ў якасці юрыдычнай асобы, на якую ўскладзеныя функцыі рэдакцыі, без праходжання дзяржаўнай рэгістрацыі… працягвае выдаваць друкаваны сродак масавай інфармацыі». Рэдактар «Бойкого Клецка», у сваю чаргу, даводзіў у скаргах, што паводле закона «Аб СМІ» друкаваныя медыя, якія выходзяць накладам не больш за 299 асобнікаў, не падлягаюць дзяржаўнай рэгістрацыі.

**18 чэрвеня** стала вядома, што грамадскі актывіст з Астраўца (Гродзенская вобласць) **Іван Крук** абвінавачваецца ў распаўсюдзе друкаваных выданняў без належнага ўказання выходных дадзеных. Начальнік прававога ўпраўлення Міністэрства інфармацыі **Лілія Богдан** лічыць, што ён парушыў арт. 22 Закона «Аб сродках масавай інфармацыі», а таксама патрабаванні Міждзяржаўнага стандарту (ГОСТа 7.5-95) у частцы ўказання выходных звестак. У прыватнасці, паводле пратакола, складзенага ў дачыненні І. Крука, у распаўсюджаных ім выданнях не ўказаныя заснавальнік, рэдактар, адрас рэдакцыі.

Па словах І. Крука, падставай абвінавачання сталі выданні **«Глоток воздуха», «Астравецкі веснік»**, **«Мирный атом»**, **«Вилейщина»** з публікацыямі пра запланаванае будаўніцтва АЭС у Астравецкім рэгіёне, якія ён 26 красавіка даў на вуліцы суседу (па аднаму асобніку). Адразу пасля гэтага газеты былі адабраныя супрацоўнікамі праваахоўных органаў.

**14 ліпеня** афіцыйнае папярэджанне ад пракуратуры за «незаконныя» заняткі з моладдзю атрымаў арганізатар слонімскай «Школы маладога журналіста» **Алесь Масюк**. «Адзінае маё парушэнне — гэта тое, што я праводзіў заняткі на кватэры. Але я

некалькі разоў звяртаўся ў выканкам з просьбай даць памяшканне для школкі, ніхто нічога не даваў», — пракаментаваў сітуацыю грамадскі актывіст.

Нагадаем, пракурорская праверка дзейнасці «Школы маладога журналіста» распачалася ў красавіку бягучага года пасля таго, як супрацоўнік мясцовага аддзелу выхаваўчай і сацыяльнай работы ўпраўлення адукацыі **Максім Маслаў** наведаўся на заняткі. Нагодай для «праверкі» стаў той факт, што апошнім часам у горадзе нібыта актыўна распаўсюджваецца нелегальная літаратура.

**14 ліпеня** пракуратура Мінскай вобласці вынесла папярэджанні за «незаконную журналісцкую дзейнасць» двум сябрам БАЖ **Аксане і Аляксандру Калінкіным**. Нагода для папярэджання — іх супрацоўніцтва з расійскім «**Телеканалом благих новостей» (ТБН**) без акрэдытацыі ў Міністэрстве замежных спраў РБ. (Дакумент падпісаны пракурорам Мінскай вобласці **Аляксандрам Архіпавым.**)

**27 ліпеня** магілёўскі журналіст **Генадзь Суднік** наведаў пракурора Шклоўскага раёна **І. Снапкова**, да якога быў выкліканы павесткай. Высветлілася, што галоўны інжынер мясцовага папяровага завода вінаваціць рэпарцёра ў распаўсюджванні праз тэлеканал "**Белсат**" і Інтэрнет непраўдзівых звестак пра стан гэтага прадпрыемства. Са свайго боку, журналіст паведаміў пракурору, што ніколі не чуў пра аўтара заявы, ніколі яму не тэлефанаваў, не бачыў публікацый, прысвечаных папяроваму заводу, і нават не ведае, дзе гэтае прадпрыемства знаходзіцца.

**29 ліпеня** стала вядома, што галоўны рэдактар часопіса **"Magazyn Polski na uchodzstwie"** (выданне не прызнанага ўладамі Саюза палякаў) **Ігар Банцар** атрымаў папярэджанне ад пракуратуры Гродзенскай вобласці. Журналіста папярэдзілі за парушэнне заканадаўства аб СМІ (арт. 22.9 КаАП ч. 2) — распаўсюд перыядычных друкаваных выданняў без выходных дадзеных.

Нягледзячы на тое, што выданні так і не былі распаўсюджаныя, пракуратура папярэдзіла І. Банцара за намер гэта зрабіць. Гаворка ідзе пра незарэгістраваныя выданні "Magazyn Polski na uchodzstwie" і "**Glos znad Niemna na uchodzstwie**", якія міліцыя забрала ў гродзенскіх журналістаў з аўтамабіля **23 чэрвеня** непадалёк ад Шчучына. Тады міліцыянты затрымалі машыну, у якой ехалі сябры ГА «БАЖ» **Анджэй Пісальнік**, **Андрэй Пачобут і** Ігар Банцар, а таксама віцэ-старшыня СПБ **Мечыслаў Яскевіч**. Пры даглядзе аўтамабіля яны знайшлі ў багажніку каля 50 асобнікаў «Glos znad Niemna» і некалькі дзясяткаў асобнікаў «Magazyn Polski». (Апошні ўтрымліваў калаж з выявай **А. Лукашэнкі** на вокладцы).

**17 жніўня** карэспандэнт польскай газеты «**Rzeczpospolita» Анджэй Пісальнік** атрымаў папярэджанне пракуратуры Гродзенскай вобласці за намер распаўсюдзіць друкаваныя СМІ без выходных дадзеных. Гаворка ідзе пра выданні не прызнанага ўладамі Саюза палякаў: часопіс «**Magazyn Polski na uchodzstwie**» і газету «**Glos znad Niemna na uchodzstwie**», якія **23 чэрвеня** гэтага года непадалёк ад Шчучына міліцыя забрала ў гродзенскіх журналістаў у ходзе дагляду з аўтамабіля.

Нагадаем, раней **29 ліпеня** аналагічнае папярэджанне за той самы выпадак атрымаў галоўны рэдактар часопіса «Magazyn Polski na uchodzstwie» **Ігар Банцар.**

**21 жніўня** магілёўская журналістка **Вольга Шарапкіна** атрымала папярэджанне ад Чавускай раённай пракуратуры аб недапушчэнні паўторнага парушэння арт. 11 Закона "Аб СМІ" («Дзяржаўная рэгістрацыя СМІ»). У пракуратуру В. Шарапкіну выклікалі павесткай. Пракурор Чавускага раёна **Сяргей Мінаў** спачатку пацікавіўся ў

журналісткі, што яна ведае пра з'яўленне на сайце тэлеканала **«Белсат»** інфармацыі пра Чавускую школу-інтэрнат. Калі дзяўчына адказала, што інфармацыі не бачыла і не мае да яе дачынення, пракурор уручыў ёй загадзя падрыхтаванае папярэджанне.

Паводле дакумента, падставай для яго стаў зварот у пракуратуру дырэктара Чавускай базавай школы-інтэрната **М. Лебедзева,** які прасіў высветліць законнасць размяшчэння на інтэрнэт-сайце «Белсата» інфармацыі (ад 22.04.2009 г.), датычнай інтарэсаў выхаванцаў даручанай яму ўстановы адукацыі. Далей у папярэджанні паведамлялася, што ўстаноўлена, што В. Шарапкіна сумесна з **Вадзімам Аршынскім** знаходзіліся ў школе, збіралі інфармацыю, пасля чаго размясцілі яе на сайце **«Белсат»** без ведама законнага прадстаўніка выхаванцаў — дырэктара школы. Такая дзейнасць без акрэдытацыі забароненая, і размяшчэнне гэтай інфармацыі з'яўляецца парушэннем патрабавання заканадаўства РБ аб СМІ, - паведамляецца ў папярэджанні.

**22 верасня** незалежны журналіст **Алег Ражкоў** атрымаў другое папярэджанне Гомельскай абласной пракуратуры за супрацоўніцтва ў якасці журналіста з польскім тэлеканалам **«Белсат»** без адпаведнай на тое акрэдытацыі МЗС. З такой жа фармулёўкай журналіст атрымаў першае папярэджанне **24 лютага** 2009 года.

Пракурор **Алеся Рабцава** запатрабавала ад журналіста тлумачэнняў да заявы галоўнага лекара абласнога псіхіятрычнага шпіталя **Віктара Маторанкі**. Апошні паскардзіўся на тое, што А. Ражкоў разам з Т. Бублікавай прыйшлі ў шпіталь нібыта з бэджамі «Белсат» і папрасілі пракаментаваць спыненне кантракту з лекарам, сябрам аргкамітэту партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» **Сяргеем Трыфанавым**. Па словах заяўніка, ён не ведаў пра «Белсат», таму і пагадзіўся адказаць на пытанні рэпарцёраў.

**24 верасня** журналіст з Брэста **Зміцер Кісель**, які супрацоўнічае з **"Радыё Рацыя",** атрымаў вуснае папярэджанне ад мясцовай пракуратуры за вядзенне журналісцкай дзейнасці без акрэдытацыі. Напярэдадні, **23 верасня** ў кватэру журналіста спрабавалі ўварвацца два чалавекі ў цывільным. «Яны сказалі, што трэба праехаць з імі ў пракуратуру. Мне сапраўды прыходзіў пазоў, каб з'явіцца туды на наступны дзень», — паведаміў рэпарцёр, які раней атрымліваў тэлефонныя пагрозы з папярэджаннямі, што будзе мець непрыемнасці, калі не спыніць журналісцкую дзейнасць.

**28 верасня** ў Магілёве пракурорскае папярэджанне аб парушэнні арт.11 Закона «Аб СМІ» («Дзяржаўная рэгістрацыя СМІ») атрымаў тэлеаператар і фотамастак **Вадзім Аршынскі**.

Дакумент прыйшоў па пошце заказным лістом. Папярэдніх сустрэч з пракурорам у рэпарцёра не было. У снежні 2008 г. В. Аршынскі здымаў канцэрт і ўручэнне падарункаў выхаванцам Чавускага дома-інтэрната ад актывістаў прафсаюза РЭП і магілёўскіх сяброў БАЖ. Пракурор **Сяргей Мінаў** вінаваціў Аршынскага, што той без дазволу выхавацеляў гутарыў з дзецьмі і без дазволу размясціў гэтыя інтэрв'ю на сайце тэлеканала **«Белсат»,** які не мае акрэдытацыі ў Беларусі. **21 жніўня**, аналагічнае папярэджанне атрымала магілёўская журналістка **Вольга Шарапкіна.**

**30 верасня** кіраўніцтва прыватнай FM-радыёстанцыі **«Аўтарадыё»** атрымала пісьмовае папярэджанне ад Мінінфармацыі за «невыкананне творчай канцэпцыі вяшчання ў частцы аб'ёма перадач уласнай вытворчасці і тэматычнага напаўнення». Як распавёў генеральны дырэктар радыёстанцыі **Юрый Базан**, **29 верасня** яму патэлефанавалі з міністэрства з просьбай прадаставіць «для маніторынгу» аўдыёфайлы

з запісам праграмы «ЕўраZOOM» (сумесны праект з «**Еўрапейскім радыё для Беларусі**», які рэалізуецца пад патранажам Еўракамісіі). А ўжо 30 верасня з міністэрства прыйшло папярэджанне. Мініфармацыі прадпісала кіраўніцтву ЗАТ «Аўтарадыё» да 1 кастрычніка «зрабіць захады па выкананні заяўленай творчай канцэпцыі» і нагадала, што можаануляваць іх ліцэнзію на вяшчанне (пастанова Саўміну № 726 ад 30.05.2003). **1 і 2 кастрычніка** на хвалях «Аўтарадыё» праграма «ЕўраZOOM» у эфір не выйшла.

**7 кастрычніка** журналістка **Таццяна Бублікава** давала тлумачэнні ў Гомельскай абласной пракуратуры адносна заявы чыноўніцы мясцовага гарвыканкама **Наталлі Ратобыльскай**. Яна звінавaціла журналістку ў тым, што тая нібыта запісала ад імя супрацоўніцы телеканала **«Белсат»** аудыёінтэрв'ю і размясціла яго ў эфіры. Пракуратура не знайшла пацвярджэння гэтым фактам, а рэпарцёр адмаўляла сваю спрычыненасць да гэтай справы. Пракурор **Алеся Рабцава** вусна папярэдзіла журналістку аб адміністратыўнай адказнасці ў выпадку, калі факт супрацоўніцтва з «Белсатам», які не мае акрэдытацыі ў Беларусі, пацвердзіцца праўдзівай заявай наступнага чыноўніка. **24 лютага** гэтага года Т. Бублікава ўжо атрымала пісьмовае папярэджанне ад Гомельскай абласной пракуратуры «за ажыццяўленне журналісцкай дзейнасці на карысць польскага спадарожнікавага тэлеканала "Белсат"» без акрэдытацыі.

**26 кастрычніка** рэдактар незарэгістраванай маланакладнай нясвіжскай газеты **«Брама» Алесь Язвінскі** атрымаў папярэджанне пракуратуры аб недапушчальнасці парушэння артыкула 23 закона «Аб сродках масавай інфармацыі». Паводле дакумента, папярэджанне зробленае за тое, што рэдактар грамадска-палітычнага выдання не дасылаў абавязковыя бясплатныя асобнікі на адрасы шэрагу дзяржаўных устаноў, як гэта прадугледжана заканадаўствам. У пракуратуру А. Язвінскага выклікалі ў якасці сведкі павесткай без подпісу і пячаткі (па якой справе, таксама не ўдакладнялася).

**30 кастрычніка** Міністэрства інфармацыі папярэдзіла заснавальніка недзяржаўнай рэгіянальнай газеты **«Вольнае Глыбокае»** за публікацыі на рускай мове. **Уладзіміра Скрабатуна** (ён жа рэдактар газеты) звінавацілі ў парушэнні п.3 арт. 14 закона «Аб сродках масавай інфармацыі», паколькі ён не паведаміў міністэрству ў належны тэрмін пра змену мовы выдання.

«Вольнае Глыбокае» зарэгістравана як беларускамоўная газета. Але ў двух вераснёўскіх нумарах выдання (№№ 36, 38 ад 3 і 17 верасня) былі апублікаваныя рэкламныя тэксты на рускай мове. Гэта і стала падставай для вынясення папярэджання.

**18 лістапада** на сайце Міністэрства інфармацыі паведамлялася, што гэтая ўстанова пісьмова папярэдзіла адразу чатыры друкаваныя перыядычныя выданні «ў сувязі з парушэннямі ў публікацыях патрабаванняў закона „Аб СМІ“».

**16 лістапада** рэдакцыя газеты **«Наша Ніва»** атрымала папярэджанне паводле арт. 34 закона «Аб СМІ» («Статус журналіста СМІ»). Міністэрства палічыла, што аўтары публікацыі «Замоўчванне грыпу выклікала эпідэмію панікі» (№ 41 ад 4 лістапада) не праверылі сапраўднасці атрыманых імі звестак.

Таксама **16 лістапада** Мініфармацыі папярэдзіла рэдакцыю і заснавальніка газеты **«Ва-банкъ»** (бясплатная сталічная рэкламна-інфармацыйная газета) па арт.14 («Перарэгістрацыя СМІ»), арт.38 («Інфармацыя, распаўсюд якой у СМІ забаронены») і арт.49 («Пісьмовыя папярэджанні»).

**17 лістапада** рэдакцыя газеты **«Комсомольская правда» в Белоруссии»** атрымала папярэджанне па артыкулах 4 («Асноўныя прынцыпы дзейнасці СМІ») і 49 («Пісьмовыя папярэджанні») за матэрыял «Родные заболевшей гомельчанки: «Сейчас дочка на искусственной вентиляции, а лекарств в больнице нет», апублікаваны 14 лістапада. Мінінфармацыі палічыла, што газета распаўсюдзіла недакладныя звесткі.

І **17 лістапада** рэдакцыя газеты **«Народная воля»** была папярэджаная паводле арт. 38 Закона «Аб СМІ» («Інфармацыя, рапаўсюд якой у СМІ забаронены»). Міністэрства палічыла, што ў артыкуле «…Не мешай другим отстаивать свободу» (№ № 169–170 ад 30.10-02.11.09 г.) «ўтрымліваўся заклік перашкаджаць законнай дзейнасці ЦВК, а таксама заклік да іншай дзейнасці, якая адносіцца да экстрэмісцкай». Публікацыя была падпісаная «**Ігарам Драко**, жыхаром Мінска», які дзяліўся ўласным меркаваннем адносна таго, як варта дзейнічаць апазіцыі на наступных прэзідэнцкіх выбарах.

Пазней Міністэрства інфармацыі прызнала папярэджанне абгрунтаваным. Пра гэта паведамлялася ў адказе ад 12 снежня за подпісам міністра інфармацыі **Алега Праляскоўскага** на спробу рэдакцыі абскардзіць папярэджанне.

Папярэджанні, вынесеныя газетам «Наша Ніва», «Комсомольская правда» в Белоруссии» і «Ва-банкъ», таксама засталіся ў сіле.

**25 лістапада** незалежная журналістка з г. Бяроза (Брэсцкая вобл.) **Тамара Шчапёткіна** атрымала афіцыйнае пракурорскае папярэджанне за журналісцкую дзейнасць без акрэдытацыі на карысць польскай радыёстанцыі «**Радыё Рацыя».** Шчапёткіну выклікалі ў пракуратуру Бярозаўскага раёна павесткай як сведку. Але, калі журналістка патэлефанавала ўдакладніць, па якой справе, ёй паведамілі, што нагодай для выкліку стала яе «незаконная журналісцкая дзейнасць». Падставай для папярэджання сталі лісты-скаргі ад галоўнага ўрача раённай бальніцы і камандзіра батальёна вайсковай часткі, якая месціцца ў горадзе.

**24 снежня** Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанне недзяржаўнай грамадска-палітычнай газеце **«Народная воля»** за распаўсюд нібыта не адпаведнай рэчаіснасці інфармацыі (арт. 4 закона «Аб СМІ»). Нагодай для санкцыі стала нататка ў нумары 193–194 «Народнай волі» ад 11–14 снежня, у якой рэдакцыя прапаноўвала чытачам пералік гандлёвых кропак «Белсаюздруку» ў Мінску, дзе можна на больш выгадных умовах аформіць падпіску на газету. Такая падпіска атрымліваецца танней, чым, напрыклад, праз паштовыя аддзяленні. «НВ» назвала гэтыя ўмовы «ільготным тарыфам». Мінінфармацыі палічыла ўжыванне гэтага словазлучэння парушэннем.

Нагадаем, гэта было другое цягам 2009 года папярэджанне на адрас выдання. Рэдакцыю «НВ» пісьмова папярэдзілі **17 лістапада** за артыкул «…Не мешай другим отстаивать свободу». Між тым, паводле арт. 51 п. 2.2. закона «Аб СМІ», вынясенне рэдакцыі альбо заснавальніку СМІ на працягу года двух і больш папярэджанняў можа пацягнуць за сабой прыпыненне выпуску гэтага СМІ.

## Замахі на журналістаў і СМІ, затрыманні, спробы ціску

**У сярэдзіне студзеня** (з 14.01.2009 г.) некалькі сутак адсутнічаў доступ да навінавай інтэрнет-старонкі **«Народныя навіны Віцебска»** (news.vitebsk.cc). Адміністрацыя сайта сцвярджала, што рэсурс быў заблакаваны штучна, прычым толькі для наведнікаў з Беларусі. Рэдактар сайта, сябра ГА «БАЖ» **Сяржук Серабро** не выключыў, што блакаванне было звязана са зладжаным на сайце галасаваннем на тэму «Чалавека года». У выніку галасавання на першых пазіцыях апынуліся мясцовыя бізнесмен, прадпрымальнік-апазіцыянер, незалежны журналіст, а на самай апошняй - старшыня Віцебскага аблвыканкама **Уладзімір Андрэйчанка**.

**5 лютага** ў Гродна невядомыя асобы парэзалі нажом дзверы прыватнай кватэры карэспандэнта польскага выдання **«Gazeta Wyborcza»,** сябра ГА «БАЖ» **Андрэя Пачобута**. Гэта здарылася, калі журналіст быў у ад'ездзе за мяжой. У гэты ж перыяд яго васьмігадовай дачцэ на мабільны тэлефон настойліва званіў невядомы мужчына, у тым ліку ноччу. На гарадскі тэлефон таксама неаднаразова паступалі ананімныя тэлефанаванні з невядомых нумароў. Журналіст мяркуе, што ціск на сям'ю можа быць звязаны і з яго прафесійнай дзейнасьцю, і з актыўным удзелам у працы непрызнанага ўладамі Саюзу палякаў на чале з **Анжалікай Борыс**. **У сакавіку** стала вядома, што праваахоўныя органы Гродна не палічылі патрэбным узбуджаць крымінальную справу супраць зламыснікаў. Аператыўны ўпаўнаважаны Ленінскага раённага аддзела ўнутраных справаў Гродна капітан міліцыі **Пазняк** патлумачыў гэта тым, што грамадскі парадак не быў парушаны, матэрыяльных стратаў не зафіксавана, а ананімныя тэлефанаванні не неслі рэальнай пагрозы.

**11 сакавіка** ў вёсцы Варняны Астравецкага раёна міліцыя правяла «агляд памяшканняў» у прыватным доме і гаспадарчых пабудовах лідэра грамадскай ініцыятывы «Астравецкая атамная – гэта злачынства» **Міколы Уласевіча**. Вынятку матэрылаў не праводзілася, але міліцыянты сфатаграфавалі ўсю аргтэхніку, што была ў доме. Санкцыю на ператрус да раённы пракурор, атрымаўшы паведамленьне ад начальніка Ўпраўленьня КДБ па Астравецкім раёне аб тым, што «4 сакавіка ў вёсцы Альхоўка Астравецкага раёну распаўсюджвалі літаратуру невядомага характару». «У доме, а таксама дваравых пабудовах Мікалая Уласевіча… можа быць выяўлена незаконна надрукаваная прадукцыя, а таксама сродкі для друку», - гаварылася ў пастанове пракурора. Гаворка ішла пра незарэгістраванае (299 асобнікаў) выданне **«Астравецкі веснік»** якое пачалі выпускаць актывісты названай грамадзянскай ініцыятвы**.** У першым жа нумары выдання былі размешчаны матэрыялы, скіраваныя супраць будаўніцтва Астравецкай АЭС.

**12 сакавіка** міліцыянты з панятымі наведалі дом яшчэ аднаго актывіста ініцыятывы, **Івана Крука** – таксама з санкцыі раённага пракурора і з той жа нагоды.

**10 красавіка** стала вядома, што Міністэрства інфармацыі пастанавіла знішчыць два асобнікі **«Астравецкага весніка»**, якія трапілі да праваахоўных органаў 4 сакавіка. «Паколькі яны не прадстаўляюць істотнай каштоўнасці і выпушчаны з парушэннем патрабаванняў Міжнароднага стандарта ГОСТ 7.5–95 у частцы ўказання выходных і выпускных дадзеных», - гаварылася ў пастанове намесніка міністра **Ігара Лапцёнка**.

Выдаваць «Астравецкі веснік» сябры грамадскай ініцыятывы вырашылі пасля таго, як улады адмовілі ім у праве правесці пікеты супраць будаўніцтва АЭС, а мясцовая раённая газета адмовілася змяшчаць на сваіх старонках матэрыялы сябраў аргкамітэту з крытыкай ідэі будаўніцтва АЭС.

**У канцы сакавіка** на працягу трох дзён адсутнічаў доступ да інтэрнет-сайта апазіцыйнага палітыка, былога кандыдата ў прэзідэнты Беларусі **Аляксандра Казуліна** (kozylin.com) Як паведаміў выпускаючы рэдактар сайта **Сяргей Марцалеў**, на рэсурс ажыццяўлялася DdoS-атака.

**26 красавіка** каля 12.30 у памяшканне, якое здымае журналістка сайта **Хартыі'97** **Наталля Радзіна**, прыйшлі супрацоўнікі адразу некалькіх аддзелаў Ленінскага РУУС г. Мінска. Міліцыянты заявілі, што праводзяць апытанне жыхароў дома ў сувязі з крадзяжом ровара ў фірме, размешчанай па суседстве. Аднак, убачыўшы ў кватэры некалькі камп'ютэраў, яны выклікалі на дапамогу яшчэ некалькіх прадстаўнікоў праваахоўных органаў. Памяшканне аглядалі 7 міліцыянтаў з аддзелаў па барацьбе з карупцыяй і эканамічнымі злачынствамі, крымінальнага вышуку і аддзела папярэдняга расследавання.

Калектыў сайта charter97.org у гэты час вёў інтэрнэт-трансляцыю традыцыйнай акцыі апазіцыі «Чарнобыльскі Шлях». Міліцыянты запатрабавалі ва ўсіх супрацоўнікаў пашпарты. Ім падалося «падазроным», што ў кватэры знаходзіцца столькі камп'ютэраў. Спачатку яны збіраліся выпісаць пастанову аб вынятку аргтэхнікі, але пасля, параіўшыся з начальствам па тэлефоне, большасць міліцыянтаў пакінула кватэру. Двое супрацоўнікаў яшчэ паўтары гадзіны апытвалі журналістаў, перапісвалі іх пашпартныя дадзеныя і пакінулі кватэру толькі пасля 15.00, калі скончыўся «Чарнобыльскі Шлях».

Журналісты не выключаюць, што сілавыя структуры імкнуліся сарваць іх працу па асвятленні акцыі апазіцыі.

**17 красавіка** ў Клецку супрацоўнікі міліцыі затрымалі журналістаў, сябраў ГА «БАЖ» **Настассю Краўчук** і **Кацярыну Ткачэнка**, а разам з імі выдаўца рэгіянальнага бюлетэню **«Бойкі Клецк» Сяргея Панамарова** (таксама сябра БАЖ). Іх пратрымалі ў пастарунку некалькі гадзін, пасля чаго забралі відэаапаратуру і касеты з адзнятым матэрыялам.

Журналісты рыхтавалі ў Клецку тэлесюжэт пра прыпыненне рамонтных работ у мясцовым праваслаўным храме, што лічыцца «помнікам гісторыі 1-й катэгорыі». Збіраючы матэрыял, здымачная група наведала Клецкую пракуратуру, пасля чаго, відавочна, трапіла ў поле ўвагі праваахоўных органаў. У часе вонкавых здымкаў храма да іх падыходзіў капітан міліцыі **Сянькевіч**, які перапісаў усе дадзеныя з журналісцкіх пасведчанняў і пашпартоў і запатрабаваў дазвол на вядзенне здымкаў. Журналісты заявілі, што такога дазволу не патрабуецца, бо артыкулы 33 і 34 Канстытуцыі РБ гарантуюць грамадзянам права на свабоду меркаванняў, перакананняў, іх свабоднае выказванне і атрыманне, збор і распаўсюд інфармацыі. Пасля заканчэння здымкаў да іх падышлі некалькі міліцыянтаў і папрасілі прайсці ў аддзяленне міліцыі, дзе кожнага апыталі і склалі пратаколы. Міліцыянты цікавіліся, з якой мэтай і для якога СМІ працуюць журналісты. Пасля ў іх адабралі відэакамеру SONY і штатыў, а таксама 6 касет з адзнятым матэрыялам. Пры гэтым міліцыянты адмовіліся выдаць ім копію пратаколу вынятку. Толькі пасля таго, як журналісты запатрабавалі кнігу скаргаў, ім выдалі «даведку» за подпісам выканаўца абавязкаў намесніка начальніка Клецкага РАУС падпалкоўніка міліцыі **А. Бурака**.

ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" накіравала ў Клецкую раённую пракуратуру скаргу на дзеянні міліцыі ў дачыненні да сябраў арганізацыі.

**13 траўня** журналістам вярнулі відэаапаратуру ў Клецкім РАУС. А **16 чэрвеня** ГА "БАЖ" атрымала ад начальніка аддзела ўнутраных спраў Клецкага райвыканкама

**Міхаіла Грушы** адказ на сваю скаргу. Кіраўнік клецкай раённай міліцыі паведаміў, што ў дзеяннях супрацоўнікаў, якія 17 красавіка затрымлівалі журналістаў, выяўленыя парушэнні патрабаванняў адміністратыўна-працэсуальнага заканадаўства і што двум міліцыянтам «строга ўказана на сур'ёзны недагляд падчас вядзення адміністратыўнага працэсу" і "прадпісана правесці з асабовым саставам РАУС дадатковыя заняткі па вывучэнні патрабаванняў працэсуальна-выканаўчага заканадаўства аб адміністратыўных правапарушэннях".

**8 чэрвеня** амаль увесь дзень не працаваў сайт **«Хартыі-97»**. Паводле адміністратараў інфармацыйнага рэсурсу, гэта здарылася ў выніку моцнай DdoS-атакі на сервер сайта. Прэс-цэнтр «Хартыі-97» звязвае падобныя DdoS-атакі з дзейнасцю беларускіх спецслужб.

**6 ліпеня** каля 17.00 адзін з самых папулярных інфармацыйных сайтаў гомельскага рэгіёна **odsgomel.org** часова спыніў працу. Паводле супрацоўнікаў рэсурсу, прычынай стала хакерская атака на яго. Яны схільныя звязваць гэта з публікацыяй вострых матэрыялаў – у прыватнасці, пра галадоўку лідэра гомельскай кааліцыі АДС **Уладзіміра Кацоры**, а таксама хваляванні мясцовых прадпрымальнікаў.

**8 ліпеня ў** Гомелі затрымалі незалежнага журналіста, сябра ГА «БАЖ» **Алега Ражкова**. Журналіст разам з калегай **Таццянай Бублікавай** асвятляў вулічную акцыю прадпрымальнікаў у цэнтры Гомеля. Алег Ражкоў здымаў падзеі на відэакамеру, а ў перапынках складаў апаратуру ў сваю сумку. Да журналістаў падышлі два чалавекі ў цывільным, хутка прад'явілі нейкія пасведчанні і загадалі Алегу Ражкову паказаць змесціва сумкі. Убачыўшы камеру, яны заявілі, што гэтая апаратура знаходзіцца ў вышуку, і загадалі ісці з імі ў абласное ўпраўленне ўнутраных спраў. Калі журналіст запярэчыў, яго пацягнулі сілай. У выніку гвалтоўнага затрымання ў Алега Ражкова адбылося ўшчамленне пазваночнага нерва, і пэўны час ён з цяжкасцю мог хадзіць.

Ва ўпраўленні ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкама яго пратрымалі каля трох гадзін. Пра «скрадзеную» відэакамеру размова больш не вялася. Спачатку міліцыянты збіраліся скласці пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні — нібыта за ўдзел Ражкова ў несанкцыянаваным мерапрыемстве. Але, даведаўшыся, што ён журналіст, і паглядзеўшы на пасведчанне сябра БАЖ, яны адмовіліся ад сваіх намераў. Пасля гэтага следчыя прапанавалі аддаць ім адзнятую на акцыі касету, бо «на ёй можа быць інфармацыя пра арганізатараў мерапрыемства». Паколькі журналіст не пагадзіўся, міліцыянты скапіявалі інфармацыю з яе ў камп'ютэр і склалі пратакол вынятку і вяртання касеты.

Пасля гэтага Алега Ражкова адпусцілі. Журналіст пакінуў у кнізе заўваг і прапаноў запіс пра парушэнне сваіх прафесійных правоў. Паводле юрыста, намесніка старшыні БАЖ **Андрэя Бастунца**, міліцыя парушыла правы журналіста на ажыццяўленне прафесійнай дзейнасці, гарантаваныя арт. 34 закона «Аб СМІ».

**8 ліпеня** на сайце "**Хартыя-97**" быў апублікаваны артыкул «Лідэр РНА патрапіў пад амністыю ў гонар 65-годдзя вызвалення Беларусі ад фашыстаў». У артыкуле ішла гаворка аб тым, што адзін з кіраўнікоў так званага «Рускага нацыянальнага адзінства» ў Гомелі не панёс заслужанага пакарання за збіццё людзей, а быў асуджаны па артыкуле «дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі» і амніставаны яшчэ да таго, як абвінаваўчы прысуд у дачыненні да яго набыз сілу.

У адказ на гэтую публікацыю на сайт **www.charter97.org** прыйшоў ліст антысеміцкага характару з пагрозамі фізічнага гвалту ад наведвальніка, які падпісаўся

«Мірaслаў». Сайт “Хартыі-97” прывёў тэкст ліста з захаваннем арфаграфіі і пунктуацыі:

*«Стоит поехать в отпуск как жиды-либералы стартуют гон на правых. Ахтунг, редакторша **Радина Наталья**, мобильный телефон (....)! Тебе по хорошему говорили, объясняли, что жить надо тихо-мирно и на правых патриотов не наезжать, а то довертишься своей симпотной ж… до группового обслуживания! Ты Русский Язык плохо понимаешь или тебя старую кошелку это заводит? Нашим бойцам тоже понравится такой отжиг в темном дворике на пл. Победы. Шалава знай свое место! 88!».*

**16 ліпеня** каля 18.00 міліцыя затрымала на Кастрычніцкай плошчы Мінска фотакарэспандэнта **«Белгазеты» Вадзіма Заміроўскага.** Журналіст выконваў прафесійныя абавязкі, асвятляючы акцыю салідарнасці з беларускімі палітвязнямі, якую ладзілі ў цэнтры сталіцы моладзевыя апазіцыйныя актывісты. Яго затрымалі разам з удзельнікамі акцыі. Як паведаміў прэс-службе БАЖ сам журналіст, у яго было пры сабе рэдакцыйнае пасведчанне, якое ён прад’явіў міліцыянтам у аўтобусе яшчэ па дарозе ў Цэнтральны РУУС. Прадстаўнікі праваахоўных органаў заявілі, што яно несапраўднае.

Пазней у гутарцы з прэс-службай БАЖ намесніца галоўнага рэдактара «Белгазеты» **Марына Гуляева** зняпраўдзіла гэтую інфармацыю. Па яе словах, журналісцкае пасведчанне новага ўзору Вадзім Заміроўскі атрымліваў разам з усёй рэдакцыяй.

У раённым упраўленні ўнутраных спраў ён правёў каля трох гадзін. У яго ўзялі адбіткі пальцаў і каля 21.15 адпусцілі без складання пратаколу.

**15 жніўня** журналістаў расійскага тэлеканала НТВ **Аляксея Малкава** і **Юрыя Бабенку**, якія здымалі ў Мінску сюжэт пра зьніклых беларускіх апазыцыянераў, выслалі з краіны. Журналістаў абвінавацілі ў працы без акрэдытацыі Міністэрства замежных спраў Беларусі.

Увечары 14 жніўня супрацоўнікі спецслужбаў у цывільным вывелі журналістаў з нумара гатэлю Міжнароднага адукацыйнага цэнтра, дзе тыя спыніліся. Па словах персаналу ўстановы, гэтыя ж людзі выпісалі Малкава і Бабенку з гатэлю. Пазней стала вядома, што іх адвезлі ў Воршу, дзе пасадзілі на цягнік і адправілі ў Маскву. Ні афіцыйны беларускі бок, ні тэлекампанія НТВ інцыдэнт не каментавалі.

**5 верасня** супрацоўнікі Аршанскага РАУС абмяжоўвалі ў атрыманні інфармацыі і затрымлівалі журналістаў, якія асвятлялі бардаўскі фестываль «Аршанская бітва-2009», што ладзіцца на Крапівенскім полі пад Воршай з 1991 года.

Сярод першых пад Воршай супрацоўнікі міліцыі затрымалі сябраў БАЖ **Паліну Сцепаненку**, **Віктара Траццякова**, а таксама журналістку з Гомеля **Ларысу Шчыракову**.

П. Сцепаненку і В. Траццякова завезлі ў Аршанскае РАУС, дзе склалі пратаколы за адсутнасць флікераў. Ларысу Шчыракову разам з некаторымі іншымі затрыманымі вывезлі на станцыю Коханава (у паўгадзіне язды ад Воршы), дзе высадзілі.

У той жа дзень супрацоўнік ДАІ спыніў аўтамашыну, у якой журналістка, сябра БАЖ **Алена Сцяпанава** ехала разам са сваім калегам **Іванам Шульгой**. Міліцыянт (капітан міліцыі **Уладзімір Компель**) назваў сябе толькі тады, калі журналісты

нагадалі яму пра гэты прафесійны абавязак, і паведаміў, што ў бок вёскі Гацькаўшчына да заўсёднага месца фестывалю машыны загадана не прапускаць, бо на Крапівенскім полі нібыта знайшлі міну. Падрабязнасці ён распавядаць адмовіўся, бо інфармацыя «службовая».

Звесткі пра міну не спраўдзіліся. Затое высветлілася, што ёсць загад не пускаць удзельнікаў бардаўскага фестывалю на звыклае месца, і каардынатары фэсту мусілі выкарыстаць іншую пляцоўку для правядзення імпрэзы.

Івана Шульгу затрымалі, калі ён на просьбу мясцовых актывістаў перавозіў электрагенератар. Міліцыя затрымала таксама машыну, у якой знаходзіўся сябра БАЖ, каардынатар бардаўскага фестывалю **Юрый Копцік**.

Іван Шульга і Юрый Копцік правялі ў пастарунку тры гадзіны — да 10-й гадзіны вечара. Міліцыянты склалі вопіс рэчаў, што знаходзіліся ў машынах, і забралі іх «да высвятлення абставінаў» - нібыта па падазрэнні, што гэта могуць быць рэчы, скрадзеныя з дачнага пасёлка. Іх вярнулі прыкладна праз два тыдні.

З Аленай Сцяпанавай правялі «прафілактычную гутарку» супрацоўнікі абласной управы МУС. Сустрэўшы журналістку каля будынку Аршанскага РАУС, дзе знаходзіліся яе затрыманыя калегі, міліцыянты параілі ёй не асвятляць «апазіцыйных» імпрэзаў і не наведваць іх, «каб не было праблем».

**9 верасня** супрацоўнікі міліцыі на Кастрычніцкай плошчы Мінска перашкаджалі журналістам асвятляць акцыю пратэсту некаторых дэмакратычных арганізацый, якія выступалі супраць расійска-беларускіх вайсковых вучэнняў «Захад — 2009» і ўводу расійскіх войск на тэрыторыю Беларусі.

Нягледзячы на тое, што ўсе журналісты мелі пасведчанні, некаторыя супрацоўнікі праваахоўных органаў у цывільным літаральна атакавалі фота- і тэлекарэспандэнтаў. Адзін з іх пашкодзіў тэлекамеру сябра ГА «БАЖ» тэлеаператара **Уладзіміра Косціна**. Былі спробы адабраць фотаапараты ў фотакарэспандэнтаў **Васіля Сямашкі** і **Арцёма Лявы**. Асобы ў цывільным павалілі на зямлю фотакарэспандэнтку **«Нашай Нівы» Юлію Даашкевіч**, спрабуючы перашкодзіць вядзенню здымкаў.

**16 верасня** журналістам беларускіх і замежных СМІ зноў не давалі здымаць падзеі на Кастрычніцкай плошчы Мінска, дзе адбывалася акцыя памяці зніклых 10 гадоў таму палітыка **Віктара Ганчара** і бізнесоўца **Анатоля Красоўскага**.

На кожнага журналіста даводзілася па 2 чалавекі ў цывільным, якія захіналі іх відэа- і фотакамеры, адштурхоўвалі ад дэманстрантаў, нягледзячы на наяўнасць у журналістаў рэдакцыйных пасведчанняў.

Каля 18.00 некалькі дзесяткаў чалавек сталі ўздоўж праспекта Незалежнасці на Кастрычніцкай плошчы з партрэтамі зніклых і расцяжкай “Мы помнім”. Іх адразу ж блакавалі супрацоўнікі АМАП, адгарадзіўшы ад праезджай часткі праспекта. Адначасова на плошчу прыбегла група людзей у цывільным, якія “заняліся” журналістамі, перашкаджаючы ім здымаць.

Па падліках журналістаў, 16 верасня сілавому ўздзеянню з боку праваахоўных органаў падвергліся ўсе журналісты, што мелі пры сабе фота- і відэаапаратуру. Сярод іх — карэспандэнты **«Associated Press»**, **Рускай службы ВВС**, **«Reuters»**, **«France Presse»**, **Радыё «Свабода»**, **сайта «Хартыі-97»**, **«Нашай Нівы»**, **«Белгазеты»**, агенцтва **БелаПАН** і іншых СМІ.

Бадай усе журналісты адзначылі зладжанасць у паводзінах людзей у цывільным, якія яўна дзейнічалі па загадзя распрацаванай схеме.

**23 верасня** БАЖ **накіраваў звароты** да пракурора г. Мінска **Мікалая Куліка** і міністра ўнутраных спраў **Анатоля Куляшова** з нагоды перашкодаў, якія чыніліся журналістам падчас згаданых акцый.

Журналісцкая арганізацыя заклікала высокапастаўленае кіраўніцтва сілавікоў «высветліць, хто аддаваў і выконваў загады на стварэнні перашкодаў прафесійнай дзейнасці журналістаў, і прыцягнуць вінаватых да адказнасці», а таксама «яшчэ раз давесці да службовых асобаў і іншых супрацоўнікаў органаў унутраных спраў, што журналісты падчас масавых акцый, як і супрацоўнікі міліцыі, выконваюць свае прафесійныя абавязкі».

На зварот БАЖ да сталічнага пракурора у канцы кастрычніка **адказала** Галоўнае ўпраўленне ўласнай бяспекі (ГУУБ) Міністэрства ўнутраных спраў. «Устаноўлена, што па аналагічнай Вашай заяве (зварот у МУС — заўв. рэд.) праведзена вычарпальная праверка ГУУС Мінгарвыканкама, пра вынікі якой Вас паінфармавалі ў вызначаным законам парадку», — коратка паведамлялася ў лісце.

Аднак ніякага ліста пра вынікі праверкі БАЖ не атрымліваў. У МУС намесніка старшыні БАЖ **Андрэя Бастунца** запэўнілі, што адказ быў накіраваны па пошце яшчэ 9 кастрычніка. Аднак на неаднаразовыя просьбы прэс-службы БАЖ даслаць копію гэтага ліста адказныя за яго падрыхтоўку супрацоўнікі МУС нязменна казалі, што «зараз няма такой магчымасці».

**16 кастрычніка** гісторыя паўтарылася - журналістам, якія асвятлялі ход вулічнай Акцыі салідарнасці ў Мінску, зноў перашкаджалі працаваць супрацоўнікі праваахоўных органаў.

Як і на папярэдняй акцыі 16 верасня, за кожным фотакарэспандэнтам і тэлеаператарам былі «замацаваныя» людзі, якія не давалі здымаць разгон акцыі, захінаючы тэхніку.

**23 верасня** ў кватэру брэсцкага журналіста **Змітра Кісяля**, які супрацоўнічае з **Радыё «Рацыя»**, спрабавалі трапіць два чалавекі ў цывільным, якія заяўлялі, што журналіст павінен ехаць зь імі ў пракуратуру. Сп. Кісель сапраўды атрымліваў позву, але на 24 верасьня, і таму не адчыніў дзверы. Раней Зьміцер Кісель атрымліваў тэлефонныя пагрозы з папярэджаннямі, што будзе мець непрыемнасці, калі не спыніць журналісцкую дзейнасць.

**30 верасня** непадалёк ад прахадной Мінскага трактарнага завода міліцыянты затрымалі карэспандэнта газеты «**Новы час» Генадзя Кеснера**, які асвятляў акцыю па раздачы газеты **«Товарищ»** актывістамі Партыі камуністаў Беларускай. Нягледзячы на прад'яўленае рэдакцыйнае пасведчанне, яго пратрымалі ў УУС Партызанскага раёна г. Мінска каля гадзіны і выпусцілі пасля ўмяшальніцтва кіраўніцтва ГА «БАЖ».

У той жа дзень непадалёк ад прахадной Мінскага аўтазавода быў затрыманы намеснік галоўнага рэдактара «Товарища» **Дзмітрый Яненка**, які таксама асвятляў акцыю раздачы выдання партыйнымі актывістамі. Нягледзячы на наяўнасць у Д. Яненкі журналісцкага пасведчання, яго адвезлі ў Завадскі РУУС, дзе ў журналіста забралі дакументы, мабільны тэлефон і фотаапарат. У Яненкі з фотаапарата выдалілі ўсе зробленыя на акцыі фотаздымкі і адпусцілі праз тры гадзіны.

**У ноч з 9 на 10 кастрычніка** журналісту газеты **“Белорусы и рынок”** Генадзю Барбарычу невядомыя разбілі ў кватэры акно бутэлькай, пасля чаго паспрабавалі выцягнуць яе назад – як мяркуе журналіст, каб не пакідаць адбіткі пальцаў. Каля 12-й новы журналіст пачуў моцны ўдар па падваконні — бутэлька засталася ў самім шкле, а ад вокнаў адбягаў малады чалавек у чорнай куртцы і чорнай вязанай шапцы.

Гэта быў ужо другі падобны выпадак — першая правакацыя ў дачыненні да Барбарыча адбылася ў 2002 годзе, калі журналіст, працуючы ў інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, напісаў артыкул пра забойства пад яго вокнамі актывіста незарэгістраванай групоўкі «Русское национальное единство».

**30 кастрычніка** ў Гомелі былі затрыманыя незалежныя журналісты **Таццяна Бублікава** і **Алег Ражкоў**.

Інцыдэнт здарыўся ў момант, калі яны праводзілі на вуліцах горада відэаапытанне наконт эпідэміі «свінога» грыпу. Да іх падышлі супрацоўнікі міліцыі **Максім Ігнатчык** і **Ігар Тарасаў** і запатрабавалі паказаць дазвол на вядзенне здымкаў. Наяўнасць прэс-картак, а таксама тлумачэнні журналістаў, што яны выконваюць рэдакцыйнае заданне, а на здымкі ў гэтым месцы горада адмысловы дазвол не патрабуецца, міліцыянты не прынялі да ўвагі.

Міліцыянты засумняваліся ў сапраўднасці журналісцкіх пасведчанняў і выказалі падазрэнні наконт «антыканстытуцыйнай дзейнасці» затрыманых. Журналістаў каля 20 хвілін дапытвалі на вуліцы, потым павялі ў аддзяленне міліцыі «для высвятлення асобаў». У апорным пункце №1 Чыгуначнага раёна, куды прывялі Т. Бублікаву і А. Ражкова, літаральна праз некалькі хвілін ім паведамілі, што іх асобы ўстаноўленыя, і яны могуць быць свабодныя. Пратаколаў затрымання міліцыянты не складалі.

**29 кастрычніка** ўвечары за фатаграфаванне бела-чырвона-белых сцягоў, вывешаных на праспекце Незалежнасці ў Мінску актывістамі кампаніі «Еўрапейская Беларусь», міліцыя затрымала фотакарэспандэнтаў, сябраў ГА «БАЖ» **Юлію Дарашкевіч** (**«Наша Ніва»**) і **Уладзіміра Грыдзіна** (пазаштатны карэспандэнт **Радыё «Свабода»**).

**Уладзімір Грыдзін** не паспеў зрабіць ніводнага фотаздымка. Пасля 19.00 ён выйшаў з машыны ў раёне Уручча і збіраўся пачаць здымкі, калі да яго падбеглі міліцыянты, заламалі рукі і гвалтам пасадзілі ў машыну. На журналісцкае пасведчанне (бэдж БАЖ) Уладзіміра Грыдзіна міліцыянты не зважалі. Па дарозе ў РУУС Першамайскага раёна яго білі па патыліцы, пагражалі фізічнай расправай. У пастарунку ў яго сілай забралі фотаапарат, некалькі разоў ударыўшы пры гэтым па тулаве і падрапаўшы тэхніку. Акрамя таго, у яго перагледзелі ўсе рэчы, узялі адбіткі пальцаў, знялі на фота і відэа — усё гэта без складання пратаколаў.

Пратрымаўшы журналіста ў РУУС больш за 3 гадзіны, яму вярнулі тэхніку і адпусцілі. 30 кастрычніка Уладзімір Грыдзін напісаў скаргу на дзеянні міліцыянтаў у РУУС Першамайскага раёна Мінска.

Юлію Дарашкевіч затрымалі на праспекце Незалежнасці каля 19.20, калі яна рабіла фотаздымкі вывешаных сцягоў. Да яе пад’ехалі на машыне міліцыянты, не зважаючы на прад’яўленае пасведчанне, груба запхнулі ў машыну і адвезлі ў Першамайскі РУУС.

Як распавяла БАЖ Юлія, усіх затрыманых сабралі ў «зале прафілактыкі», дзе з імі было яшчэ 8 міліцыянтаў, ніхто з якіх не назваў сябе. Некаторыя былі з аўтаматамі.

Ва ўсіх затрыманых забралі тэлефоны. Як і ва Уладзіміра Грыдзіна, у Юліі Дарашкевіч міліцыянты забралі фотаапарат. Журналістка запатрабавала складання пратакола вынятку, выклікаўшы тым самым смех і грубыя жарты на свой адрас з боку міліцыі. Міліцыянты загадалі ёй выкласці з сумкі ўсе рэчы і склалі іх спіс. «Я была ўпэўненая, што мяне павязуць у спецпрымальнік на Акрэсціна — забралі нават шнуркі і заручальны пярсцёнак».

У Юліі таксама збіраліся ўзяць адбіткі пальцаў і паставіць на «відэаўлік». Аднак журналістка прадэманстравала добрае веданне сваіх правоў. Заявіўшы, што прымусовай дактыласкапіі падлягаюць толькі прыцягнутыя да адміністратыўнай адказнасці, яна запатрабавала складання пратакола —«каб хоць ведаць, за што мяне прыцягваюць».

Па словах журналісткі, нават складзены спіс яе рэчаў ёй на подпіс не давалі. Праз амаль 4 гадзіны хаджэння па розных кабінетах — каля 23.30 — Юлію Дарашкевіч адпусцілі. Па словах журналісткі, асабісты аўтамабіль, які яна пакінула на месцы затрымання, на эвакуатары прывезлі да Першамайскага РУУС і не вярталі ёй дакументаў, пакуль не правялі поўнага агляду машыны.

**6 лістапада** ў Бярозаўцы (Гродзенская вобласць) супрацоўнікі міліцыі на паўтары гадзіны затрымалі журналістаў **Аляксандра Дзянісава** і **Аляксандра Хілімона**, якія праводзілі відэаздымкі на шклозаводзе «Нёман». Па словах А. Хілімона, яны з калегам рыхтавалі матэрыялы пра сітуацыю на заводзе для сайтаў газеты «Обозреватель» і regionby.org. На завод іх упусцілі без праблем, бо існавала папярэдняя дамоўленасць з кіраўніцтвам прадпрыемства. Скончыўшы працу, журналісты збіраліся пакінуць будынак, калі іх заўважыў намеснік дырэктара па рэжыму на прадпрыемстве, які адразу выклікаў міліцэйскі нарад.

Міліцыянты з Бярозаўскага ўчастка Лідскага РАУС узялі з затрыманых тлумачэнні адносна мэтаў іх візіту на прадпрыемства і забралі на экспертызу адзнятую відэакасету.

**У канцы снежня 2009 – пачатку студзеня 2010 г.** і А. Хілімона, і А. Дзянісава выклікалі ў пракуратуру Гродзенскай вобласці, дзе азнаёмілі з афіцыйнымі папярэджаннямі з працу без акрэдытацыі на замежны СМІ. Паводле А. Дзянісава, назва СМІ ў папярэджанні не фігуравала, і копію дакумента журналістам на рукі не выдавалі.

**У канцы лістапада** вядомая беларуская журналістка **Ірына Халіп** атрымала пагрозы па электроннай пошце і па тэлефоне. У прыватнасці**, 24 лістапада** ўвечары ёй патэлефанаваў невядомы, які «параіў» журналістцы суняць свой журналісцкі імпэт і не выходзіць з дома. Ірына звязвае пагрозы са сваёй журналісцкай дзейнасцю.

**26 лістапада** ў шпіталі ў Мар'інай Горцы ад атрыманай чэрапна-мазгавой траўмы памёр мясцовы распаўсюднік недзяржаўнай прэсы, 51-гадовы сябар Партыі БНФ **Валянцін Доўнар.** Міліцыя лічыць, што гэта няшчасны выпадак, і што В. Доўнар сам упаў і ўдарыўся галавой аб асфальт. Знаёмыя ўпэўненыя, што яго забілі, і звязваюць напад з яго грамадскай дзейнасцю, у тым ліку па распаўсюдзе недзяржаўных СМІ.

Інцыдэнт здарыўся **20 лістапада** ўвечары ў цэнтры горада, непадалёк ад раённага аддзелу міліцыі. Доўнара даставілі ў рэанімацыю, дзе ён праз некалькі дзён памёр, так і не апрытомнеўшы.

**7 снежня** ў Мінску фотажурналістку **«Нашай Нівы» Юлію Дарашкевіч** затрымалі для праверкі аўтамабіля, калі яна ехала на інтэрв'ю з актывістам «Маладога фронту» **Дзмітрыем Дашкевічам**.

Затрыманне адбылося каля Чырвонага касьцёла ў цэнтры Мінска. Да машыны падышоў чалавек у форме ДАІ, сказаў, што мае інфармацыю, якая патрабуе праверкі, і таму журналістцы трэба паехаць з імі ў гарадское ДАІ на праспекце Дзяржынскага. У гарадзкім ДАІ фотакарэспандэнтка правяла паўгадзіны, пасля чаго да яе прыйшлі паведаміць, што «ўсё ў парадку, можаце ехаць». На просьбу патлумачыць, у чым падазравалі яе ці машыну, міліцыянт з усмешкай сказаў: «Проста праверка нумарных знакаў, Вы ж самі ўсё разумееце».

**9 снежня** ў расійскай **«Новой газете»** пабачыў свет артыкул-расследаванне **Ірыны Халіп [«Война за наследство олигарха»](#)**, прысвечаны гісторыі са спадчынай грузінскага мільярдэра **Бадры Патаркацышвілі** і арыштам у Мінску амерыканскага адваката **Міхаіла Зельцэра**.

Напярэдадні публікацыі артыкула журналістка атрымала шэраг недвухсэнсоўных пагроз ад невядомых — па тэлефоне, электроннай пошце і нават тэлеграмай. (Тэксты пагроз рэдакцыя «Новой газеты» апублікавала разам з артыкулам Ірыны. У адной з іх журналістцы, напрыклад, абяцаюць зладзіць «сустрэчу з **Ганнай Паліткоўскай**» у выпадку з’яўлення публікацыі).

Ірына Халіп лічыць, што пагрозы зыходзяць ад «тых, хто мае магчымасць чытаць чужую электронную пошту» — то бок спецслужбаў. Аўтары пагроз усяляк дэманстравалі, што ведаюць і пра змест яе тэлефонных размоваў (у тым ліку асабістых), і пра здароўе маленькага сына. «Але ў такіх выпадках галоснасць і публікацыя — адзіная гарантыя бяспекі», — перакананая журналістка.

**15 снежня** рэсурс charter97.org паведаміў пра здзейсненую на яго DdoS-атаку. Паводле паведамлення, яна пачалася пасля 13.00, калі на сайце быў апублікаваны тэкст законапраекта «Аб захадах па ўдасканаленні выкарыстання нацыянальнага сегмента глабальнай камп’ютэрнай сеткі інтэрнет». Супрацоўнікі сайта не выключаюць таксама, што атака можа быць звязана з публікацыяй у апошні час шэрагу іншых вострых матэрыялаў.

**16 снежня** каля пасольства Ірана ў Мінску міліцыя затрымала сябру ГА «БАЖ», супрацоўніцу газеты **«Наша Ніва» Настассю Шамрэй .** Журналістка асвятляла акцыю ў абарону дзесяці геяў Ірана, якіх у гэтай краіне асудзілі на смерць.

Разам з затрыманымі ўдзельнікамі акцыі журналістку прывезлі ў апорны пункт каля Савецкага РУУС, а праз гадзіну адпусцілі без складання пратаколу. Міліцыянты перапісалі яе пашпатрныя звесткі і нумар пасведчання сябры БАЖ, а таксама распыталі ў іншых затрыманых, ці сапраўды журналістка толькі асвятляла акцыю.

**22 снежня** ў журналісткі тыднёвіка **«Новы час» Вольгі Хвоін** пры асвятленні акцыі беларускіх праваабаронцаў, якія перадавалі ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі петыцыю, міліцыянты адабралі дыктафон.

Пераапранутыя ў Дзедаў Марозаў і Снягурак праваабаронцы накіроўваліся да Дому ўраду, калі да іх падышла група мужчын у цывільным на чале з намеснікам начальніка Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкама **Уладзімірам Навіткевічам**. Міліцыянты выказалі прэтэнзіі да ўдзельнікаў акцыі, заявіўшы, што тыя ладзяць «несанкцыянаванае шэсце». Побач знаходзілася карэспандэнтка «Новага часу» Вольга Хвоін, якая запісвала ўсё, што адбываецца, на дыктафон з вынасным мікрафонам.

Раптам журналістка адчула, што апаратуру вырвалі з рук. Яна пачала патрабаваць, кааб ёй вярнулі тэхніку, але міліцыянты спачатку спрабавалі зрабіць выгляд, што нічога ненармальнага не адбылося. Толькі ў выніку настойлівых патрабаванняў, а таксама дзякуючы падтрымцы праваабаронцаў, апаратуру вярнулі.

## Парушэнні прафесійнай самастойнасці рэдакцый. Цэнзура

**22 студзеня** 2009 года намеснік міністра інфармацыі **Аляксандр Слабадчук** падпісаў ліст, адрасаваны беларускім FM-радыёстанцыям, які ў канцы студзеня міністэрства разаслала кіраўнікам радыё. З паслання вынікала, што Міністэрства інфармацыі правяло спецыяльны маніторынг і выявіла, што некаторыя станцыі не выконваюць даручэння наконт вяшчання 75% беларускай музыкі ў найбольш рэйтынгавы час. У сувязі з гэтым міністэрства запатрабавала ад радыёстанцый «падаць да 1 лютага сваю творчую канцэпцыю з улікам унесеных у яе зменаў, што тычацца 75% „беларускай квоты“» і «няўхільна выконваць распрацаваную радыёстанцыяй сетку вяшчання музычных кампазіцый беларускіх аўтараў і выканаўцаў». З дакумента вынікала, што сетка распрацоўвалася з удзелам Міністэрства інфармацыі. У выпадку невыканання прадпісанняў кіраўнікоў радыёстанцый папярэдзілі, што ім пагражаюць «строгія меры», аж да звальнення.

Ідэя ўвесці 75% квоту кампазіцый беларускіх выканаўцаў для прапаганды айчыннай музыкі з'явілася ў Міністэрства культуры ў 2005 годзе.

**22 сакавіка** папулярная праграма расійскага «**Первого канала**» «Прожекторперисхилтон», якую з невялікім спазненнем рэтранслюе беларускі тэлеканал «ОНТ», выйшла ў скарочаным выглядзе. Беларускія гледачы не пабачылі таго ўрыўку праграмы, у якім вядоўцы ў саркастычнай манеры абмяркоўвалі візіт беларускага прэзідэнта ў Ерэван, дзе падчас афіцыйных перамоваў маленькі сын Аляксандра Лукашэнкі Коля сядзеў у яго на руках. У прыватнасці, юмарысты зрабілі выснову, што беларускі лідэр «у крызіс эканоміць на няньцы», і назвалі яго «вусатым нянем». Аналагічны выпадак умяшальніцтва айчынных цэнзараў у змест гэтай жа расійскай праграмы здараўся ў кастрычніку 2008 года, калі вядоўцы жартавалі з паўгадавога зняцця забароны на ўезд у Еўропу для А. Лукашэнкі.

**27 сакавіка** Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт на сустрэчы з Аляксадрам Лукашэнкам прапанаваў увесці на заканадаўчым узроўні рэгуляванне зместу беларускіх інтэрнет-сайтаў. Пры гэтым святар спаслаўся на досвед шматлікіх краін, тым ліку Кітаю. Па меркаванні мітрапаліта, галоўная праблема палягае ў тым, што «ўсялякага роду амаральная інфармацыя стала даступная самым *уязвимым* слаям насельніцтва — дзецям і падлеткам». Па меркаванні Філарэта, кітайскі досвед цікавы тым, што «пры яго выкарыстанні асноўны цяжар праблемы кладзецца не на дзяржаву, адказнымі асобамі з'яўляюцца тыя, хто прадастаўляе доступ у Сеціва».

Мітрапаліт падкрэсліў, што Царква не прапануе тэхнічнага рашэння праблемы, але ставіць пытанне і «б'е ў набат».

**8 чэрвеня** ў Мінску адбылося ўстаноўчае пасяджэнне **Грамадскай рады па маральнасці.** Заснавальнікамі рады выступілі Беларуская праваслаўная царква і Саюз пісьменнікаў Беларускі пры падтрымцы прэзідэнта краіны. У склад рады ўвайшлі кіраўнікі ўсіх традыцыйных канфесій краіны (праваслаўя, каталіцызму, лютэнарства, іудаізму і ісламу), а таксама некалькі дзесяткаў грамадскіх дзеячоў (пісьменнікаў, навукоўцаў, артыстаў, спартсменаў). Тэма Грамадскай рады – «спрыянне духоўнаму аздараўленню нацыі, зацвярджэнню ў беларускім грамадстве высокіх маральных прынцыпаў. Гэтай мэты мяркуецца дасягаць шляхам прыняцця радай заключэнняў, рэкамендацый, зваротаў да тэлерадыёкампаній, перыядычных выданняў, тэатраў, кінатэатраў, выдавецтваў, установаў адукацыі, культуры, навукі», - перадало агенцтва БелТА. Як заяўлялася, «рада можа выносіць суджэнні, якія тычацца твораў літаратуры і мастацтва, дзейнасці СМІ, асобных публікацый, тэле-і радыёперадач, інтэрнет-інфармацыі і іншых матэрыялаў, падзей і грамадскіх з'яваў».

Прадстаўнікі журналісцкай супольнасці скептычна ацанілі ідэю грамадскай рады, заявіўшы, што пытанні маралі не з'яўляюцца аб'ектам паўнамоцтваў грамадскіх альбо дзяржаўных структур, і што гэта спроба стварыць дадатковую сістэму кантролю грамадскай свядомасці.

**14 верасня** рэдакцыя інтэрнет-рэсурсу odsgomel.org была вымушана зняць з сайта матэрыял пра гомельскую ўдзельніцу фіналу нацыянальнага дзіцячага конкурсу «Песня для Еўрабачання» **Дыяну Громаву**. У відэаінтэрв’ю, размешчаным на сайце 11 верасня, яна зазначыла, што «было загадзя вырашана, хто пераможа» на конкурсе. Рэдакцыя сайта зняла матэрыял на просьбу прадзюсера спявачкі. 14 верасня ён звязаўся з карэспандэнтам, які рыхтаваў матэрыял, і паведаміў, што на яго цісне Белтэлерадыёкампанія, пагражаючы судом за «псаванне іміджу конкурсу».

З **1 кастрычніка** на хвалях беларускай FM-радыёстанцыі **«Аўтарадыё»** (105.1) перастала выходзіць у эфір праграма «ЕўраZOOM», якую рыхтуе **«Еўрапейскае радыё для Беларусі»**. **29 верасня** на «Аўтарадыё» патэлефанавалі з Міністэрства інфармацыі з просьбай прадаставіць «для маніторынгу» аўдыёфайлы з запісам праграмы «ЕўраZOOM» за 28 верасня. А **30 верасня** кіраўніцтва радыёстанцыі атрымала пісьмовае папярэджанне ад Мінінфармацыі за «невыкананне творчай канцэпцыі вяшчання».

Мінінфармацыі прадпісала кіраўніцтву ЗАТ «Аўтарадыё» да 1 кастрычніка «зрабіць захады па выкананні заяўленай творчай канцэпцыі» і нагадала, што можа ануляваць іх ліцэнзію на вяшчанне (пастанова Савета міністраў № 726 ад 30.05.2003).

Праграма «ЕўраZOOM» — сумесны праект «Еўрарадыё» і «Аўтарадыё», які рэалізуецца пад патранажам **Еўракамісіі**. Гадзінная праграма, якая складаецца з некалькіх інфармацыйных і музычных блокаў, падрыхтаваных калектывам «Еўрарадыё», пачала гучаць у эфіры «Аўтарадыё» летам 2009 года і выходзіла штодня, акрамя суботы і нядзелі. Намеснік старшыні ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» **Андрэй Бастунец** назваў гэты інцыдэнт «недапушчальным умяшальніцтвам дзяржавы ў творчую дзейнасць СМІ».

**31 кастрычніка** ў вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна (Гомельская вобласць) гомельскім сябрам ГА “БАЖ” **Таццяне Бублікавай** і **Алегу Ражкову** спрабавалі забараніць здымаць на відэа ўскладанне вянкоў і кветак на магілу **Анатоля**

**Сыса**. Калі журналісты ўключылі камеру, да іх падышоў чалавек у цывільным і загадаў спыніць здымкі, патлумачыўшы гэта тым, што паўнавартасна здымаць будзе Рэчыцкая тэлестудыя, і матэрыялы можна будзе ўзяць у іх. На просьбу журналістаў назваць сябе мужчына прадставіўся супрацоўнікам ідэалагічнага аддзелу Рэчыцкага райвыканкама **Іванам Дзекаўцом**. Прысутны на імпрэзе старшыня Гомельскай філіі БАЖ **Анатоль Гатоўчыц** папрасіў сп-ра Дзекаўца патлумачыць, на якой падставе той спрабуе забараніць журналістам выконваць прафесійныя абавязкі. «Няма каментару», — быў адказ раённага ідэолага.

**3 лістапада** першая намесніца міністра інфармацыі **Лілія Ананіч заявіла, што** Мінінфармацыі будзе «ў адпаведнасці з заканадаўствам спыняць любыя спробы дэзінфармаваць насельніцтва краіны» датычна сітуацыі з захворвальнасцю грыпам. Па словах спн. Ананіч, Мінінфармацыі «ўважліва аналізуе» працу СМІ, звяртаючы ўвагу не толькі на друкаваныя і электроныя медыя, але і на інтэрнет-версіі зарэгістраваных СМІ. «Заява Мінінфармацыі гучыць як папярэджанне медыя, — пракаментаваў гэтую заяву намеснік старшыні БАЖ **Андрэй Бастунец**. — У СМІ пачалі з'яўляцца дакументы, якія сведчаць пра няпоўнае інфармаванне суграмадзян афіцыйнымі асобамі. Спробы супакоіць людзей шляхам дазавання інфармацыі ні да чаго не прыводзяць. І зараз улады спрабуюць выкарыстаць іншыя звыклыя механізмы — ціск на медыя і пагрозы». (У хуткім часе Міністэрства інфармацыі ўсё ж вынесла некалькім недзяржаўным грамадска-палітычным выданням папярэджанні - гл. адпаведны раздзел).

**20 лістапада** інфармацыйная кампанія **БелаПАН** заявіла, што адмаўляецца адпраўляць свайго карэспандэнта на сустрэчу з расійскім прэзідэнтам Дзмітрыем Мядзведзевым, які запрасіў 23 лістапада на інтэрв'ю ў сваю рэзідэнцыю ў Барвіху паўтара дзесятка беларускіх СМІ. «Выстаўленыя прэс-службай Крамля ўмовы ўдзелу у інтэрв'ю і яго асвятлення кардынальна разыходзяцца з задачамі, што стаяць перад агенцтвам, - аператыўна прадастаўляць інфармацыю сваім падпісчыкам», - гаварылася ў апублікаваным на сайце інтэрнет-газеты БелаПАН **naviny.by** паведамленні з гэтай нагоды. У прыватнасці, гаворка ішла пра выстаўленую журналістам умову рыхтаваць свае матэрыялы на аснове афіцыйнай стэнаграмы сустрэчы. Акрамя таго, дату публікацыі тэкстаў у беларускіх выданнях таксама павінна была вызначыць прэс-служба Крамля. Праз дваццаць хвілін пасля таго, як на сайце **naviny.by** з'явілася непрыемная для Масквы публікацыя, у офіс інфармацыйнай кампаніі патэлефанавалі з прэс-службы Мядзведзева і сказалі, што пагаджаюцца на аператыўную перадачу інфармацыі з Барвіхі.

**14 снежня** на нарадзе аб задачах па вырашэнні найбольш актуальных пытанняў сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі ў 2010 годзе **Аляксандр Лукашэнка** заявіў пра неабходнасць перагледзець работу дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, бо ён лічыць недастатковай ідэалагічную работу, якая праводзіцца ў краіне. Ён звярнуў на гэта асаблівую ўвагу кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта **Уладзіміра Макея**. «Сродкі масавай інфармацыі ніяк сёння не працуюць. Тэлебачанне ў нас, як і за мяжой, — глядзець няма чаго. Радыё ў Беларусі ўжо ніхто не слухае. А па тэлевізары глядзяць кліпы. Забаўлялаўка, усё гэта нецікава. І ў мяне такое ўражанне, што там ужо і кіраўнікі забыліся, што яны з'яўляюцца суб'ектамі ідэалагічнай работы», — сказаў Аляксандр Лукашэнка. Ён таксама дадаў, што неабходна звярнуць пільную ўвагу і на работу сродкаў масавай інфармацыі ў рэгіёнах. Рэгіянальныя СМІ не павінны займацца ўсхваленнем мясцовай улады і, калі ёсць факты для крытыкі, не замоўчваць іх…»

# Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі
## (адмовы ў прадастаўленні інфармацыі, абмежавальнае выкарыстанне інстытуту акрэдытацыі)

**5 студзеня** рэдакцыя недзяржаўнай газеты **“Народная воля”** атрымала ліст за подпісам намесніка начальніка сакратарыята Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу сп. **Скарыніна**. У ім паведамлялася, што заяўку наконт акрэдытацыі **Марыны Коктыш** перадалі «адпаведным службам», якія вырашылі адмовіць журналістцы ў доступе «на тэрыторыю адміністратыўнага комплексу «Савецкая, 11» (адрас Дома ўрада).

Нагадаем, з восені 2007 года рэдакцыя «Народнай волі» намагаецца акрэдытаваць М. Коктыш пры Палаце прадстаўнікоў беларускага парламента. Нягледзячы на тое, што дагэтуль журналістка была акрэдытаваная там на працягу некалькіх гадоў, пачынаючы з 2008 года ёй адмаўляюць без тлумачэння прычын. На запыт адносна матываў такога рашэння было патлумачана, што за гэтым стаіць Служба бяспекі прэзідэнта.

Зварот рэдакцыі “НВ” да Службы бяспекі выніку не даў. Пасля гэтага «Народная воля» і Марына Коктыш вырашылі абараняць свае прафесійныя правы праз суд і накіравалі скаргі на дзеянні Палаты прадстаўнікоў і Службы бяспекі. Спробы абскардзіць адмову акрэдытацыі праз суд у 2008 годзе засталіся безвыніковымі.

**30 студзеня** камісія па СМІ Міністэрства спорту і турызму не задаволіла заяўку шматнакладнай недзяржаўнай спартыўнай газеты «**Прессбол**» на акрэдытацыю на зімовыя Алімпійскія гульні ў канадскім Ванкуверы.

Нагадаем, што год таму за шэраг крытычных публікацый «Прессбол» пазбавілі акрэдытацыі на летнія Алімпійскія гульні ў Пекіне.

**24 лютага** начальнік Слонімскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Віталь Русілевіч** адмовіўся даць інфармацыю карэспандэнту недзяржаўнага выдання **«Газета Слонімская»** датычна дзейнасці падначаленай яму ўстановы. Сваю адмову суразмоўца патлумачыў «вусным распараджэннем уладаў». Ён таксама папярэдзіў, што надалей ніхто з прадстаўнікоў слонімскага аддзела па надзвычайных сітуацыях не дасць ніводнага каментару журналістам «ГС» аб пажарах ці іншых здарэннях, якія адбываюцца ў рэгіёне.

**24 лютага** карэспандэнтка незалежнай рэгіянальнай газеты **«Intex-press» (г. Баранавічы) Людмілы Пракопава** накіравала запыт ва ўпраўленне гандлю праз аддзел ідэалогіі Баранавіцкага гарвыканкама. Карэспандэнтка хацела даведацца, колькі гандлёвых прадпрыемстваў у горадзе былі пазбаўленыя ліцэнзій за неабгрунтаванае завышэнне гандлёвых надбавак на тавары. Аднак адказу на сваё пытанне журналістка так і не атрымала.

**24 лютага** журналіста недзяржаўнай рэгіянальнай газеты **«Ганцавіцкі час» Пятра Гузаеўскага** не прапусцілі на сход сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва (СВК) «Любашава» (Ганцавіцкі раён Брэсцкай вобласці), куды ён прыехаў па просьбе работнікаў прадпрыемства. Патрапіць у памяшканне сельскага Дома культуры, дзе праходзіў сход, карэспандэнту перашкодзіў старшыня гэтага сельгаспрадпрыемства **Міхаіл Сергіеня**. Ён заявіў, што гэта сход толькі для чальцоў кааператыву.

Журналіст прапанаваў старшыню сельскагаспадарчага прадпрыемства вынесці пытанне аб яго прысутнасці на галасаванне. На што М. Сергіеня адказаў, што ў такім выпадку ён наогул не будзе распачынаць сход.

Не дапамог і зварот журналіста да прысутнага старшыні райвыканкама **Уладзіміра Столяра**, які заявіў карэспандэнту «ГЧ», што на сход запрошаныя толькі чальцы кааператыву, і будуць абмяркоўвацца выключна «ўнутраныя пытанні».

Незадаволеныя воклічы з залы іншых чальцоў кааператыву, якія былі не супраць прысутнасці прадстаўніка прэсы і выказвалі гатовасць за гэта прагаласаваць, кіраўніцтва праігнаравала.

**10 сакавіка** ў Баранавічах галоўны інжынер упраўлення капітальнага будаўніцтва **Уладзімір Весялоў** заявіў карэспандэнтцы рэгіянальнай газеты **«Intex-press»**, што з недзяржаўнымі СМІ ён не супрацоўнічае. Журналістка Зінаіда Дрозд рыхтавала матэрыял па скарзе ўрачоў і педагогаў горада, не згодных будаваць шматкватэрны дом на балоцістай мясцовасці.

**13 сакавіка** карэспандэнтка **«Intex-press» Іна Ганчар** не змагла праясніць сітуацыю з беспрацоўем у горадзе. Начальніца ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Баранавічскага гарвыканкама **Таццяна Латышава** адмовілася даць такія звесткі. Не дапамаглі і звароты рэпарцёра да кіраўніцы аддзела ідэалагічнай працы **Таццяны Жытко**.

**16 сакавіка** супрацоўнікі аховы не прапусцілі ў залу Ленінскага раённага суда Гродна незалежнага журналіста **Івана Романа**, нягледзячы на тое, што ён меў пры сабе журналісцкае пасведчанне. Сп. Роман запатрабаваў Кнігу водгукаў і скаргаў і запісаў у ёй, што міліцыянты перашкаджалі яму выконваць прафесійныя абавязкі.

**2 траўня** стала вядома, што начальнік Ленінскага аддзела дэпартамента аховы г. Гродна маёр **Зайко**ў не заўважыў правапарушэнняў у дзеяннях сваіх падначаленых. Гэта вынікала з ліста, які сп. Роман атрымаў у адказ на свой запіс.

**3 красавіка** стала вядома, што аддзел статыстыкі г. Баранавічы і Баранавіцкага раёна адмовіў карэспандэнту недзяржаўнай газеты **«Intex-press» Людміле Пракопавай** у прадастаўленні інфармацыі пра цэны на тавары ў г. Баранавічы ў 2008 г. Па словах аднаго са спецыялістаў баранавіцкага аддзела статыстыкі, такі загад яны атрымалі ад Брэсцкага абласнога ўпраўлення статыстыкі, з якім павінны зараз узгадняць усю інфармацыю, што падаецца ў СМІ.

**10 красавіка** карэспандэнтку недзяржаўнай газеты **«Информ-прогулка» (**г. Лунінец) **Марыю Юрко** не пусцілі на сход гаспадарчага актыву, дзе прадстаўлялі новага кіраўніка раёна. Загадчык ідэалагічнага аддзела спаслаўся на тое, што выданне не мае акрэдытацыі пры райвыканкаме. Як зазначыла ў сваю чаргу рэдактар газеты **Святлана Гарда**, рэдакцыя двойчы — пры двух розных кіраўніках мясцовай улады — рабіла спробы атрымаць акрэдытацыю. Апошнюю адмову «ИП» спрабавала абскардзіць у аблвыканкам, але выніку гэта не прынесла.

**14 красавіка** стала вядома, што Брэсцкія гарадскі і абласны выканаўчыя камітэты не акрэдытавалі карэспандэнтаў недзяржаўнага рэгіянальнага выдання **«Брестская газета»**, спаслаўшыся на тое, што пакуль не распрацавалі механізмаў акрэдытацыі прадстаўнікоў СМІ.

«Такія адказы мясцовых ўладаў выклікаюць здзіўленне. Закон "Аб СМІ" ўступіў у сілу 8 лютага, а тут атрымліваецца, што ён не можа паўнавартасна прымяняцца, бо ўлады яшчэ не распрацавалі палажэнне аб акрэдытацыі СМІ", — зазначыў галоўны рэдактар выдання **Віктар Марчук**.

**15 красавіка** ў судзе Першамайскага раёна Мінска праходзіў разгляд скаргі актывіста «Маладога фронта» Зьмітра Хведарука на незаконныя дзеянні прызыўной і медычнай камісій. Падчас працэсу суддзя Наталля Петух выдаліла з залы журналістаў, праваабаронцаў і сяброў зыскоўцы.

**1 траўня** супрацоўнікі прадпрыемства «Горизонт-Тур» не дазволілі весці фотаздымкі першамайскай дэманстрацыі з балкона гатэля «Гарызонт» карэспандэнтцы недзяржаўнай баранавіцкай газеты «Intex-press» (Брэсцкая вобласць) Людміле Пракопавай. Яны запатрабавалі ў журналісткі дазволу на гэта ад Баранавіцкага гарвыканкама. Адзначым, што дагэтуль мясцовыя фатографы традыцыйна рабілі панарамныя здымкі менавіта з гатэля, адкуль адкрываецца добры далягляд.

**15 траўня** стала вядома, што начальнік аддзела архітэктуры і горадабудаўніцтва Бабруйскага гарвыканкама адмовіўся даць інфармацыю пазаштатнаму карэспандэнту недзяржаўнай газеты **«Бобруйский курьер».** Журналіста цікавілі новыя праекты, якімі займаецца гэты аддзел гарвыканкама.

Чыноўнік, які раней не раз даваў інфармацыю «Бобруйскому курьеру», гэтым разам адмовіўся ад сустрэчы з журналістам. Ён спаслаўся на тое, што на адной з нядаўніх нарадаў у гарвыканкаме прагучала каманда не прадастаўляць ніякіх звестак «Бобруйскому курьеру». Па ўсіх пытаннях карэспандэнту "БК" прапанавалі звяртацца ў аддзел ідэалагічнай працы.

**18 траўня** карэспандэнт баранавіцкай недзяржаўнай газеты **«Intex-press» Зінаіда Дрозд** па скарзе чытачоў, дзецям якіх няма дзе катацца на скейтбордах, звярнулася з гэтым пытаннем у аддзел фізкультуры і спорту гарадской адміністрацыі. Аднак кіраўнік аддзела Генадзь Касцюкевіч паведаміў, што ўсю інфармацыю журналіст можа атрымаць толькі праз упраўленне ідэалогіі Баранавіцкага гарвыканкама.

Пературваніўшы начальніку ўпраўлення ідэалогіі **Таццяне Жытко**, толькі праз пяць гадзін журналістка змагла даведацца, што скейтбардзістам у Баранавічах можна катацца… «паўсюль».

**21 траўня** карэспандэнта **«Газеты Слонімскай» Сяргея Чыгрына** не пусцілі на сустрэчу мясцовых прадпрымальнікаў з намеснікам старшыні Слонімскага райвыканкама **Анатолем Фідрыкам**. Чыноўнік забараніў журналісту прысутнічаць на сустрэчы, заявіўшы, што той не ўваходзіць у спіс запрошаных.

**10 чэрвеня** перад пачаткам першага слухання крымінальнай справы супраць праваабаронца **Леаніда Свеціка** ў Віцебскім абласным судзе суддзя **Галіна Урбановіч** выдаліла з залы журналістаў, якія прыйшлі асвятляць працэс. Праваабаронцу вінавацілі напісанні і распаўсюдзе лістоў з пагрозамі ад імя прафашысцкай арганізацыі «Русское Национальное Единство» (РНЕ).Суддзя адхіліла хадайніцтва праваабаронцы пра допуск на пачатак працэсу незалежных журналістаў, якія ў 2006-2007 г.г. пісалі пра атрыманне лістоў ад РНЕ віцебскімі апазіцыянерамі. Пакінуць залу суда было загадана **Алене Сцяпанавай** і **Вадзіму Баршчэўскаму**. Між тым, здымачная група дзяржаўнага тэлебачання змагла бесперашкодна рабіць здымкі ў памяшканні суда і браць інтэрв'ю ў прысутных на працэсе.

**15 чэрвеня** кіраўніца Цэнтра прапаганды і навучання Барысаўскага гарадскога аддзела па надзвычайных сітуацыях **Надзея Вялікахацька** адмовілася падаць штотыднёвую зводку пра пажары супрацоўніку недзяржаўнай газеты **«Борисовские новости»**. Дагэтуль газета рэгулярна публікавала падобныя звесткі ў рубрыцы «Борисов: цифры и факты». Аднак гэтым разам журналісту адмовілі, спаслаўшыся на адпаведны загад выканаўца абавязкаў начальніка Барысаўскага аддзела па надзвычайных сітуацыях маёра **Дзмітрыя Мыльнікава**.

**16 чэрвеня** галоўны лекар установы аховы здароўя «Лунінецкая цэнтральная раённая бальніца» **Мікалай Кочык**, нягледзячы на папярэднюю дамоўленасць, адмовіўся даваць інтэрв'ю карэспандэнту недзяржаўнай мясцовай газеты **«Информ-прогулка» Таццяне Качаноўскай.** У прызначаны дзень ён груба заявіў, што заняты. Дамовіцца на нейкі іншы час карэспандэнтцы «ИП» таксама не ўдалося. Рэдакцыя планавала зрабіць матэрыял да Дня медыцынскага работніка, а таксама пра працу службы хуткай дапамогі.

**18 чэрвеня** журналістаў недзяржаўных СМІ не дапусцілі на справаздачна-выбарчы сход гродзенскай гарадской арганізацыі Саюза палякаў на Беларусі (зарэгістраванай). Яго старшыня **Казімір Знайдзінскі** распарадзіўся супрацоўнікам міліцыі не пускаць прадстаўнікоў «**Gazety Wyborczej», «Rzeczpospolita», «Радыё Рацыя» і тэлеканала «Белсат»** у будынак мясцовага Дома культуры.

**19 чэрвеня** прыватнае прадпрыемства «ІнтэксПрэс-Рэгіён» – выдавец недзяржаўнай газеты «**Ганцавіцкі час»** – атрымала пісьмовую адмову на просьбу акрэдытаваць журналістаў **Ірыну Дамарацкую і Пятра Гузаеўскага** пры Ганцавіцкім райвыканкаме. У афіцыйным лісце старшыня райвыканкама **Уладзімір Столяр** абгрунтаваў гэта тым, што «пазіцыя выканкама па гэтым пытанні ўтрымліваецца ў рашэнні ад 28 студзеня 2008 г., прычын для перагляду прынятага рашэння няма». Нагадаем, год таму Ганцавіцкі райвыканкам і раённы савет дэпутатаў таксама без тлумачэнняў прычын адмовілі ў акрэдытацыі журналістам гэтай газеты.

**25 чэрвеня** прадстаўнікі недзяржаўнай рэгіянальнай газеты **«Бобруйский курьер»** паведамілі, што ў чарговы раз сутыкнуліся з праблемай атрымання інфармацыі ад чыноўнікаў мясцовага гарвыканкама. Карэспандэнту "БК", які па тэлефоне звярнуўся ў аддзел архітэктуры і горадабудаўніцтва па інфармацыю пра будучую тралейбусную лінію на адной з гарадскіх вуліц, заявілі, што ёсць указанне не падаваць ніякіх звестак для гэтай газеты. З пытаннем пра тралейбусную лінію журналіста перанакіравалі ў аддзел ідэалагічнай працы.

Пасля гэтага рэдакцыя даслала ў у аддзел архітэктуры пісьмовы запыт пра будаўніцтва тралейбуснай лініі і іншых важных для гарадской інфраструктуры аб'ектаў. Але адказ, які рэдакцыя атрымала **17 чэрвеня**, нагадваў звычайную адпіску: у ім коратка пералічваліся планавыя мерапрыемствы аддзела. "На падставе такіх звестак немагчыма падрыхтаваць сур'ёзную публікацыю», - зазначаюць у рэдакцыі.

**30 чэрвеня** прэс-сакратар Міністэрства ўнутраных спраў **Святлана Бароўская** адмовілася прадаставіць інфармацыю карэспандэнту **«Еўрапейскага радыё для Беларусі» Змітру Панямонаву**. Журналіст цікавіўся выпадкамі, калі супрацоўнікі міліцыі самі правакавалі грамадзян на правапарушэнні. С. Бароўская адмовілася не толькі прадаставіць такую інфармацыю, але і наогул размаўляць з рэпарцёрам, спаслаўшыся на занятасць. Па словах Панямонава спн. Бароўская ў свой час пакрыўдзілася на «Еўрарадыё» за матэрыял «Каму дазволена будаваць у прыродаахоўнай зоне?», дзе згадваўся і яе прыватны дом. Разам з тым, журналіст

лічыць, што асабістыя крыўды не вызваляюць прэс-сакратара міністэрства ад наўпроставых службовых абавязкаў.

**6 ліпеня** ў Брэсцкім абласным камітэце БРСМ карэспандэнту недзяржаўнай газеты **«Брестский курьер» Наталлі Чухно** адмовіліся даць інфармацыю пра арганізацыю працы для моладзі на час летніх канікул. Супрацоўніца абкаму, удакладніўшы, хто задае гэтае пытанне, паведаміла, што ніякай інфармацыі незалежнай газеце яна не дасць.

**12 ліпеня** было агучана, што лідэр руху «За свабоду» **Аляксандр Мілінкевіч** адмовіўся адказваць на пытанні журналістаў недзяржаўнай газеты **«Народная воля».** Сваю адмову палітык матываваў нязгодай з пазіцыяй, якой трымаецца выданне. Верагодна, такая рэакцыя з боку А. Мілінкевіча выкліканая найперш артыкулам **Міхаіла Падаляка** «Отбеливатель М.», надрукаваным у «Народнай волі» сёлета ў траўні.

**14 ліпеня** начальнік Загараднага аддзелу міліцыі Барысаўскага РУУС **Сяргей Гара** адмовіўся прадаставіць інфармацыю карэспандэнту недзяржаўнай газеты «Борисовские новости» **Алесю Мікалайчанку**. Гэта адбылося нягледзячы на папярэднюю дамоўленасць (прычым, ініцыяваную самімі міліцыянтамі). Паводле журналіста, перад гэтым С. Гара паведаміў, што падрыхтуе чарнавік тэксту, які міліцыя хацела б убачыць на старонках «Борисовских новостей». Гаворка ішла пра папярэджанне ўладальнікам прыватных дамоў - каб тыя ўзмацнілі ахову сваёй маёмасці ў летні перыяд.

Аднак, калі Алесь Мікалайчанка прыйшоў у РУУС па тэкст, начальнік упраўлення заявіў, што ідэолагі не далі санкцыі на прадастаўленне якой-кольвек інфармацыі гэтай недзяржаўнай газеце.

**21 ліпеня** стала вядома, што Барысаўскі райвыканкам адмовіў у акрэдытацыі журналістам недзяржаўнай газеты **"Борисовские новости**". "На кожнае з мерапрыемстваў рэдакцыям СМІ высылаецца запрашэнне і ажыццяўляецца разавая акрэдытацыя", - паведаміў у лісце в.а. старшыні райвыканкама **Юрый Шылягін** (пасланне датавана 16-м ліпеня). Гэты адказ амаль даслоўна дублюе ліст, які прыйшоў у рэдакцыю з галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Мінаблвыканкама за подпісам начальніцы ўпраўлення **Таццяны Дзедух**.

**29 ліпеня** адмовілі ў інфармацыі карэспандэнтам недзяржаўнай інтэрнет-газеты **«Салідарнасць» Алене Якжык і Настассі Зелянковай**, якія па заданні рэдакцыі накіраваліся ў Астрашыцкі гарадок (Мінская вобласць) рабіць рэпартаж пра рамонт мясцовай школы. Дырэктарка школы, высветліўшы, што журналісткі прадстаўляюць недзяржаўнае выданне, настойліва папрасіла іх пакінуць тэрыторыю навучальнай установы і забараніла фатаграфаваць. Яна заявіла, што школа - гэта "закрыты аб'ект", і журналістам трэба было загадзя ўзгадніць свой візіт з мясцовым выканкамам. Назваць сябе дырэктарка катэгарычна адмовілася.

Журналісткі спрабавалі праверыць інфармацыю пра тое, што ў гэтай школе магчыма будзе вучыцца Коля Лукашэнка (побач месціцца прэзідэнцкая рэзідэнцыя "Азёрны").

**12 жніўня** рэдакцыя недзяржаўнай газеты **«Ганцавіцкі час»** атрымала адказ з Брэсцкага аблвыканкама на сваю скаргу на неабгрунтаваную адмову Ганцавіцкага райвыканкама акрэдытаваць журналістаў выдання. У ім паведамлялася, што

журналісты не могуць быць акрэдытаваныя пры мясцовым райвыканкаме, таму што ў гэтай дзяржустанове няма «Палажэння аб акрэдытацыі». (Скаргу на імя старшыні Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта **Канстанціна Сумара** рэдакцыя накіравала 24 ліпеня.)

Такім чынам, журналісты «ГЧ» ужо сем гадоў безвынікова спрабуюць атрымаць акрэдытацыю пры мясцовай адміністрацыі.

**2 верасня** фотакарэспандэнтку недзяржаўнай рэгіянальнай газеты **«Intex-press» Людмілу Пракопаву** затрымалі на тэрыторыі 61-ай авіябазы ў Баранавічах (Брэсцкая вобласць). Па заданні рэдакцыі яна асвятляла жалобную цырымонію вяртання на радзіму целаў лётчыкаў А. Марфіцкага і А. Жураўлевіча, якія загінулі на авіяшоў у Польшчы. Аднак на тэрыторыі базы ёй паведамілі, што «Intex-press» -- апазіцыйнае выданне, якое не мае акрэдытацыі пры Міністэрстве абароны. У камендатуры журналістка разам з галоўным рэдактарам газеты **Уладзімірам Януkevічам**, які прыехаў туды, былі вымушаныя пісаць тлумачальныя. Л. Пракопаву адпусцілі толькі праз чатыры гадзіны пасля затрымання.

**5 верасня** здымачную групу **Першага нацыянальнага тэлеканала** не пусцілі на з'езд Партыі БНФ, які праходзіў у Мінску. Перад пачаткам з'езду партыйныя ахоўнікі папрасілі супрацоўнікаў дзяржаўнага тэлебачання пакінуць будынак, паколькі тыя не былі акрэдытаваныя на мерапрыемства.

Паводле прэс-сакратаркі партыі **Кацярыны Макоўскай**, журналісты Першага канала нават не спрабавалі атрымаць акрэдытацыю. Разам з тым, напярэдадні ўправа Партыі БНФ прыняла рашэнне не акрэдытоўваць на з'езд здымачныя групы дзяржаўных тэлеканалаў. Спаслаўшыся на тое, што асвятленне дзяржаўнымі тэлеканаламі папярэдніх партыйных мерапрыемстваў было тэндэнцыйным і перадузятым, а ў некаторых выпадках нават паклёпніцкімі.

**8 верасня** карэспандэнт газеты «**Информ-прогулка**» (г. Лунінец) **Юрый Юрко,** рыхтуючы калонку навінаў, звярнуўся да начальніка чыгуначнай станцыі Мікашэвічы (Лунінецкі раён) **Вадзіма Велясніцкага** з просьбай назваць колькасць пасажыраў, што скарысталіся паслугамі станцыі з пачатку года. Праз некалькіх дзён перамоваў стала вядома, што такая інфармацыя – камерцыйная тайна беларускай чыгункі. Рэпарцёру параілі напісаць пісьмовы запыт на імя першага намесніка начальніка Баранавіцкага аддзялення Беларускай чыгункі.

**12 верасня** ў Гродне журналістам некаторых беларускіх і аднаго замежнага СМІ не дазволілі прысутнічаць на VII з'ездзе зарэгістраванага Саюза палякаў на Беларусі (СПБ). Сярод такіх апынуліся карэспандэнтка **«Газеты Слонімскай» Хрысціна Марчук,** радыёжурналіст, сябра ГА «БАЖ» **Іван Роман**, журналіст **Радыё «Свабода» Сяргей Астраўцоў**, а таксама карэспандэнт польскай **«Rzeczpospolita» Пётр Касціньскі**.

Акрэдытацыяй журналістаў займалася **Хелена Богдан** — галоўная рэдактарка газеты афіцыйнага СПБ **«Glos znad Niemna»**. Напрыклад, польскаму журналісту, які меў акрэдытацыю ад «Rzeczpospolita» пры МЗС, Х. Богдан патлумачыла, што яго прысутнасць на з'ездзе непажаданая.

**16 верасня** суддзя Чыгуначнага раённага суда г. Віцебска **Уладзіслаў Шыкароў** не дазволіў прысутнічаць на адміністратыўным працэсе незалежнай журналісткі **Алене Сціпанавай** і сябрам падсуднага апазіцыйнага актывіста Сяргея Каваленкі. У

выніку прысуд сябру Партыі БНФ, якога пакаралі штрафам за вывешванне бел-чырвона-белага сцягу, быў вынесены фактычна на закрытым паседжанні.

**18 верасня** стала вядома, што Баранавіцкі ваенкамат адмовіўся акрэдытаваць карэспандэнтаў недзяржаўнай газеты **«Intex-press»**, паколькі “акрэдытоўвае толькі дзяржаўныя СМІ”. Пры гэтым ваенны камісар, палкоўнік **Міхаіл Соц** спаслаўся на арт. 173 «Інструкцыі аб парадку арганізацыі ідэалагічнай працы ва Узброеных Сілах», зацверджанай загадам Міністра абароны 03.01.2006 года.

**15 кастрычніка** ваенны камісарыят Брэсцкай вобласці паведаміў у адказе на скаргу, што Баранавіцкі ваенкамат законна адмовіў журналістам недзяржаўнай газеты «**Intex-press»** у акрэдытацыі, і прапанаваў звяртацца па часовую альбо разавую акрэдытацыю

Рэдакцыя «IP» палічыла, што гэтыя нормы дыскрымінуюць правы недзяржаўных медыя.

**9 кастрычніка** карэспандэнт **«Газеты Слонімскай» Ганна Валадашчук**, якая неаднаразова звярталася да старшыні Слонімскай раённага савета дэпутатаў **Сяргея Рагозіка** з просьбай прадаставіць інфармацыю для публікацыі на тэму «Мясцовае самакіраванне», атрымала яго пісьмовы адказ на запыт па гэтай тэме.

Дэпутат паведаміў, што ўсю інфармацыю пра паўнамоцтвы органаў заканадаўчай улады, органаў мясцовага самакіравання журналісты могуць атрымаць з Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Таксама С. Рагозік заявіў, што пытанні, датычныя складу Слонімскага раённага савета дэпутатаў, сістэматычна друкуюцца на старонках дзяржаўнай раённай газеты **«Слонімскі веснік».**

Трэба адзначыць, што спачатку сп. Рагозік наогул адмаўляўся адказваць на пытанні карэспандэнткі, спасылаючыся на тое, што не хоча мець ніякіх зносін з недзяржаўнай газетай. Пасля гэтага журналістка накіравала дэпутату пытанні ў пісьмовым выглядзе.

**14 кастрычніка** карэспандэнтку недзяржаўнай газеты **«Ганцавіцкі час»** не пусцілі на святочны прыём, які ладзіў на Дзень маці старшыня Ганцавіцкага райвыканкама **Уладзімір Столяр**. На ўваходзе ў малую залу выканкама журналістку не прапусціла дырэктарка мясцовага Дома культуры **Ірына Гурская**, а затым і супрацоўніца ідэалагічнага аддзела **Марына Муха**. Загад выправадзіць карэспандэнтку паступіў ад кіраўніка справамі райвыканкама **Мікалая Зажэкі.**

**21 кастрычніка** стала вядома, што недзяржаўную рэгіянальную газету **«Бобруйский курьер»** не запрасілі на прэс-канферэнцыю, прысвечаную эканамічнай лібералізацыі мясцовых прамысловых прадпрыемстваў. На мерапрыемства былі запрошаныя прадстаўнікі бабруйскіх прадпрыемстваў, арганізацый, а таксама ўсіх мясцовых СМІ.

**21 кастрычніка** рэдактарка газеты **«Информ-прогулка»** (г. Лунінец) **Святлана Гарда** паведаміла, што пракурор Лунінецкага раёна **Віктар Савіч** падчас тэлефоннай размовы не толькі адмовіўся даць інфармацыю па здарэнні, але і катэгарычна забараніў асвятляць яго. Нагодай тэлефанавання журналісткі ў пракуратуру стаў жудасны факт — рэдакцыі “ИП” стала вядома, што мясцовая жыхарка знайшла на сваім гародзе мёртвае немаўля.

«На жаль, гэта не першы выпадак, калі раённы пракурор не толькі не дае інфармацыі па фактах, якія непакояць гараджан, але наогул забараняе друкаваць іх”, — зазначылі ў рэдакцыі недзяржаўнай газеты.

**26 кастрычніка** рэдактару горацкай недзяржаўнай газеты **«УзГорак» Эдуарду Брокараву** адмоўлена ў акрэдытацыі пры Горацкім райвыканкаме (Магілёўская вобласць). У адказе за подпісам старшыні раённай вертыкалі **Міхаіла Анікеева** гаварылася, што акрэдытаванымі пры ўстанове сродкамі масавай інфармацыі з’яўляюцца дзяржаўныя раённая газета **«Ленінскі шлях»** і радыёпраграма **«Голас Горацкага краю».** Таму акрэдытаванне іншых СМІ немэтазгоднае.

**31 кастрычніка** гомельскім сябрам БАЖ **Таццяне Бублікавай і Алегу Ражкову** спрабавалі забараніць здымаць на відэа ўскладанне вянкоў і кветак на магілу беларускага паэта Анатоля Сыса. Цырымонія ўшанавання памяці паэта ладзілася на яго радзіме — у вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці, і была прымеркаваная да 50-годдзя з дня яго народзінаў.

«Калі мы пачалі рабіць відэаздымкі, да нас падышоў чалавек у цывільным і загадаў не здымаць. Патлумачыў ён гэта тым, што паўнавартасна гэта будзе рабіць Рэчыцкая тэлестудыя, і матэрыялы нібыта можна будзе ўзяць у іх”, — распавяла Т. Бублікава. Пазней мужчына прадставіўся супрацоўнікам Рэчыцкага райвыканкама **Іванам Дзекаўцом**.

**3 лістапада** намесніца міністра інфармацыі **Лілія Ананіч** паведаміла, што Мініфармацыі будзе «ў адпаведнасці з заканадаўствам спыняць любыя спробы дэзінфармаваць насельніцтва краіны». Па яе словах, міністэрства «ўважліва аналізуе» працу СМІ, звяртаючы ўвагу не толькі на друкаваныя і электронныя медыя, але і на інтэрнет-версіі зарэгістраваных СМІ. Як удакладніла дзяржаўнае агенцтва **БелТА**, каментар прагучаў у звязку з «ажыятажам, які раздзьмуваецца некаторымі СМІ… адносна захворвальнасці ВРВІ і грыпам».

“Гэтая заява гучыць як папярэджанне медыя. У СМІ пачалі трапляць дакументы, якія сведчаць пра, мякка кажучы, няпоўнае інфармаванне суграмадзян афіцыйнымі асобамі пра сітуацыю з захворваннямі на свіны грып і пнеўманію”, — пракаментаваў заяву намеснік старшыні БАЖ **Андрэй Бастунец**.

**3 лістапада** стала вядома, што напярэдадні ў Мінску ў лякарні не пускаюць журналістаў не толькі недзяржаўных, але і дзяржаўных медыяў. Паводле неафіцыйнай інфармацыі, з медработнікаў узялі падпіску аб неразгалошваньні інфармацыі, якая тычыцца захворванняў на грып. Напярэдадні ў лякарні № 5 і № 6 не пусцілі журналістаў **Першага дзяржаўнага тэлеканала**, якія спрабавалі даведацца пра сітуацыю з усплёскам захворвальнасці. **3 лістапада** ў гэтых лякарнях таксама не хацелі гутарыць з журналістамі.

**12 лістапада** галоўны ўрач Баранавіцкай цэнтральнай паліклінікі **Аляксандр Стэцко** адмовіўся назваць газеце **«Intex-press»** колькасць памерлых сёлета ў Баранавічах ад пнеўманіі. Рэдакцыя «Intex-press» даведалася пра выпадак смерці маладой жанчыны ў Баранавічах ад гэтай хваробы. Аднак спробы ўдакладніць, каторы гэта выпадак смерці сёлета, не дала выніку. А. Стэцко пацвердзіў факт гібелі жанчыны, але адмовіўся размаўляць далей.

З падобнай рэакцыяй медыкаў сутыкнуліся на пачатку лістапада і ганцавіцкія калегі. Галоўны ўрач Ганцавіцкай цэнтральнай раённай лякарні **Аляксандр Раманоўкі**

ў тэлефоннай гутарцы з карэспандэнтам «Ганцавіцкага часу» **Ірынай Дамарацкай** пацвердзіў тры выпадкі смерці ад пнеўманіі ў Ганцавічах за тыдзень, аднак адмовіўся паведаміць, колькі пацыентаў з такім дыягназам зараз лекуюцца.

**18 лістапада** галоўнае статыстычнае ўпраўленне Брэсцкай вобласці паведаміла недзяржаўнай баранавіцкай газеце **«Intex-press»**, што надалей інфармацыю выданню будзе прадаваць. Гэта адбылося пасля таго, як рэдакцыя накіравала туды пісьмовы запыт аб індэксах коштаў на харчовыя тавары, а таксама грашовых выдатках у хатніх гаспадарках па Брэсцкай вобласці. Рэдакцыя лічыць новую прапанову дзяржаўнай установы перашкодай у ажыццяўленні законнай журналісцкай дзейнасці.

**27 лістапада** стала вядома, што спробы карэспандэнткі яшчэ адной недзяржаўнай газеты - **«Брестский курьер»** атрымаць апошнія звесткі датычна сітуацыі з захворваннямі на грып засталіся безвыніковымі. У паліклініках і лякарнях Брэста, куды звярталася журналістка “БК” **Наталля Чухно**, ёй адмовіліся даць інфармацыю і накіравалі ў Абласны цэнтр гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя. Галоўны санітарны ўрач Брэсцкай вобласці **Алег Арнаўтаў** не пажадаў размаўляць на гэтую тэму па тэлефоне, параіўшы зрабіць пісьмовы запыт. Рэдакцыя газеты скарысталася гэтай парадай, аднак у вызначаны тэрмін (да дня выхаду чарговага нумару «Брестского курьера») адказу так і не дачакалася.

Карэспандэнтка таксама патэлефанавала начальніку ўпраўлення аховы здароўя Брэсцкага аблвыканкама **Ігару Ласіцкаму**, які паведаміў, што эпідэмічная сітуацыя ідзе на спад. Разам з тым, ён адмовіўся прывесці якія-небудзь лічбы.

**3 снежня** горацкай недзяржаўнай **газеце «УзГорак»** было адмоўлена ў акрэдытацыі пры Мсціслаўскім райвыканкаме (Магілёўская вобласць). У адказе за подпісам старшыні раённай выканаўчай улады **Васіля Віцюнова** паведамлялася, што ў гэтым раёне ў выдання замала падпісчыкаў, таму акрэдытацыя немэтазгодная.

**30 лістапада** Вярхоўны суд адхіліў скаргу галоўнага рэдактара **«Народнай волі» Іосіфа Сярэдзіча** і журналісткі выдання **Марыны Коктыш** на рашэнне суда першай інстанцыі, які не захацеў узбуджаць грамадзянскую справу з-за адмовы Палаты прадстаўнікоў акрэдытаваць журналістку. «Паколькі пытанні акрэдытацыі журналістаў у кампетэнцыю суда не ўваходзяць», — паведамлялася ў лісце за подпісам намесніка старшыні ВС **А. Федарцова.**

Нагадаем, восенню 2007 г. журналістцы, якая да гэтага на працягу некалькіх гадоў бесперашкодна акрэдытоўвалася пры ПП НС, адмовілі без тлумачэння прычын. На запыт адносна матываў было патлумачана, што за гэтым рашэннем стаіць прэзідэнцкая Служба бяспекі.

З таго часу рэдакцыя газеты і журналістка неаднаразова абскарджвалі адмову ў акрэдытацыі ў судовых інстанцыях, дайшоўшы да Вярхоўнага суда, але пакуль безвынікова.

**15 снежня** стала вядома, што дырэктар Бабруйскага унітарнага камунальнага прадпрыемства цеплаэнергетыкі **Уладзімір Аўдзевіч** у тэлефоннай размове з журналістам газеты **«Бобруйский курьер»** наадрэз адмовіўся прадастаўляць якую-небудзь інфармацыю пра выкарыстанне газавых міні-кацельняў у горадзе, заявіўшы, што гэта “закрытая тэма”.

Журналіст збіраўся зрабіць матэрыял пра эканамічную мэтазгоднасць выкарыстання газавых міні-кацельняў. Гэтую тэму ён планаваў раскрыць на прыкладзе міні-кацельні аднаго з жыллёва-будаўнічых кааператываў горада. Ён нават дамовіўся на размову са старшынём кааператыву, але з умовай — атрымаць папярэдне згоду ад сп. **Аўдзевіча**.

**28 снежня** рэдакцыя недзяржаўнай рэгіянальнай «**Газеты Слонімскай»** атрымала пісьмовую адмову на просьбу акрэдытаваць журналістаў выдання пры мясцовым райвыканкаме. У лісце за подпісам намесніка старшыні выканкама **Дзмітрыя Дзешкі** паведамлялася, што «асвятленне пасяджэнняў, а таксама нарадаў, якія праводзіць выканкам, ажыццяўляецца журналістамі дзяржаўнай газеты **"Слонімскі веснік",** якая з'яўляецца афіцыйным органам Слонімскага райвыканкама».

Трэба адзначыць, што **25 лістапада** рэдакцыя «ГС» накіравала таксама зварот на імя старшыні аддзела інфармацыі і грамадскіх сувязяў упраўлення ўнутраных спраў Гродзенскага аблвыканкама **Георгія Еўчара** з просьбай акрэдытаваць журналістаў выдання **Міколу Канановіча** і **Вольгу Шынкевіч** пры Слонімскім РАУС, а пазаштатную карэспандэнтку **Хрысціну Марчук** — пры УУС Гродзенскага аблвыканкама. Аднак адказу пакуль не атрымала.

## Канфлікты, звязаныя з атрыманнем і распаўсюдам замежнай інфармацыі ці дзейнасцю замежных СМІ

**25 студзеня** Міністэрства замежных спраў Беларусі адмовіла ў акрэдытацыі дваім карэспандэнтам **Радыё «Рацыя».** Падставай для такога рашэння стала тое, што журналісты раней працавалі без акрэдытацыі. Паводле «Рацыі», аналагічную адмову напачатку 2009 года атрымаў яшчэ адзін яе карэспандэнт, аднак яго імя радыёстанцыя не паведаміла.

**24 лютага Таццяна Бублікава** з Гомеля атрымала папярэджанне пракуратуры «за ажыццяўленне журналісцкай дзейнасці на карысць польскага спадарожнікавага тэлеканала **"Белсат".** У дакуменце за подпісам намесніка пракурора Гомельскай абласной пракуратуры **Генадзя Раманюка** паведамлялася, што яна парушыла артыкул 35 ч. 4 Закона «Аб сродках масавай інфармацыі», які забараняе «ажыццяўленне прафесійнай дзейнасці журналістаў замежных сродкаў масавай інфармацыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь без акрэдытацыі».

**2 сакавіка** прадстаўнікі **АТ «Польскае тэлебачанне»** (Telewizja Polska S.A.) атрымалі ліст з Міністэрства замежных спраў РБ. Там паведамлялася, что МЗС прыпыніла разгляд дакументаў аб адкрыцці прадстаўніцтва тэлеканала **«Белсат»** у Беларусі (со спасылкай на тое, што яны афармленыя неналежным чынам).

**3 сакавіка** Міністэрства замежных спраў РБ адмовіла ў акрэдытацыі ў якасці карэспандэнта **«Радыё Рацыя»** незалежнаму журналісту з Гродна **Івану Роману.** Падставай было тое, што "ён раней ажыццяўляў журналісцкую дзейнасць на тэрыторыі Беларусі ад імя замежнага СМІ без акрэдытацыі пры МЗС".

**Ануляванне акрэдытацыі карэспандэнта «Gazety Wyborczej» Анджэя Пачобута**

**4 сакавіка** супрацоўнікі гарадзенскай міліцыі склалі пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні на Анджэя Пачобута — журналіста «Gazety Wyborczej». Паводле пратакола, ён абвінавачваўся ў тым, што прымаў актыўны ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу, які адбыўся 17 студзеня каля будынка праўладнага саюза палякаў на Беларусі

**17 сакавіка** суддзя Ленінскага раённага суда Гродна **Наталля Козел** аштрафавала журналіста на падставе гэтага пратаколу на 525 тысяч рублёў.

А **3 сакавіка** Міністэрства замежных спраў Беларусі анулявала акрэдытацыю Анджэя Пачобута ў якасці карэспандэнта «Gazety Wyborczej». Чальцы камісіі, якія разглядалі яго зварот аб падаўжэнні тэрміну акрэдытацыі, прыйшлі да высновы, што той тэндэнцыйна асвятляе падзеі ў Рэспубліцы Беларусь і негатыўна піша пра кіраўніка дзяржавы.

**4 сакавіка Алег Ражкоў** з Гомеля атрымаў па пошце афіцыйнае папярэджанне Гомельскай абласной пракуратуры «за ажыццяўленне журналісцкай дзейнасці на карысць польскага спадарожнікавага тэлеканалу **«Белсат».** У дакуменце за подпісам намесніка пракурора Г.Раманюка гаварылася, што пракуратура правяла праверку з нагоды зваротаў грамадзянак **Валянціны Маісеенкі і Наталлі Ягаравай**. Тыя паскардзіліся, што інтэрв'ю, якое яны давалі журналістам Ражкову і **Бублікавай,** было ў лістападзе 2008 году паказана па тэлеканале «Белсат», які «не зарэгістраваны ў вызначаным заканадаўствам парадку».

**17 сакавіка** была раптоўна звольнена з пасады дырэктара тэлеканала **"Белсат" Агнешка Рамашэўска**. Па яе словах, ў гэтым мусілі быць "замешаныя такія палітычныя сілы, якія вельмі не хочуць нашкодзіць Аляксандру Лукашэнку". Выканаўчы дырэктар Польскага грамадскага тэлебачання (TVP) Пётр Фарфал патлумачыў звальненне журналісткі «публічным ігнараваннем рашэнняў праўлення» і «выказваннямі на старонках прэсы без папярэдняга ўзгаднення». Аднак ужо **24 сакавіка** адбылося яе аднаўленне на пасадзе дырэктара «Белсата».

**1 красавіка** ў Беларусі адбылося спыненне трансляцыі тэлеканалаў **«Рен ТВ», «Первый. Всемирная сеть», «РТР-Планета», «ТВЦ-интернешнл» і «НТВ-Мир»**. Начальніца аддзелу праграм эфірна-кабельнага тэлеаператара **«Космос ТВ» Алена Клюйкова** патлумачыла гэты крок неабходнасцю выканання рашэнняў Саўміну і закона «Аб СМІ», паводле якіх замежныя тэлевізійныя каналы абавязаныя атрымаць дазвол на трансляцыю на тэрыторыі краіны.

**17 красавіка** ў Клецку супрацоўнікі міліцыі затрымалі незалежных журналістаў **Настассю Краўчук і Кацярыну Ткачэнка**. Іх пратрымалі ў пастарунку некалькі гадзін, цікавіўшыся, з якой мэтай і для якога СМІ яны працуюць. Пасля гэтага ў рэпарцёраў, якія рыхтавалі сюжэт пра прыпыненне рамонтных работ у мясцовым праваслаўным храме, што лічыцца «помнікам гісторыі 1-й катэгорыі», забралі відэаапаратуру і касеты з адзнятым матэрыялам.

**13 траўня** пасля скаргі ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» у Клецкую раённую пракуратуру відэаапаратуру журналісткам вярнулі.

**21 красавіка** журналістам **Таццяне Бублікавай і Алегу Ражкову** не далі зняць «стэндап» на тэрыторыі мастацкай галерэі **Гаўрылы Вашчанкі** ў Гомелі. Цкаванне рэпарцёраў пачалося з-з артыкула ў дзяржаўнай газеце **«Гомельская праўда»,** у якім паведамлялася, што «двум маладым людзям, якія называюць сябе незалежнымі

журналістамі, пракуратура вобласці вынесла афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння закона».

**29 красавіка** гродзенскі журналіст **Іван Роман** атрымаў афіцыйную позву Камітэта дзяржбяспекі, пасля чаго яго адвезлі ў Гродзенскае абласное ўпраўленне КДБ. Там яму далі азнаёміцца з дакументам, паводле якога І.Роман папярэджваецца аб недапушчальнасці парушэння арт. 369-1 Крымінальнага кодэкса РБ - «Дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь». Гаворка ідзе пра шэраг матэрыялаў у часопісе «**Magazyn Polski na uchodzstwie»** і на **«Радыё Рацыя».**

**11 жніўня** кіраўнік упраўлення КДБ па Гродзенскай вобласці **Ігар Сяргеенка** не патлумачыў прычыны вынясення афіцыйнага папярэджання журналісту Івану Роману, які супрацоўнічае з «Радыё Рацыя» і іншымі медыярэсурсамі. Журналіст цікавіўся, з якой нагоды супраць яго праводзіліся аператыўна-пашуковыя мерапрыемствы, а таксама на якой падставе супрацоўнікі дзяржбяспекі лічаць, што ён прадастаўляе недакладныя звесткі замежным СМІ, дыскрэдытуючы такім чынам Беларусь.

**29 траўня** карэспандэнтка **Радыё «Рацыя» Тамара Шчапёткіна** атрымала адміністратыўнае пакаранне ў выглядзе вуснага папярэджання за «парушэнне грамадскага парадку падчас правядзення масавага мерапрыемства». (ч.1 арт. 23.34 КаАП). Такое рашэнне прыняў суд Бярозаўскага раёна (Брэсцкая вобласць).

**30 чэрвеня** прэс-сакратар МУС **Святлана Бароўская** адмовілася прадаставіць інфармацыю карэспандэнту **«Еўрапейскага радыё для Беларусі» Змітру Панямонаву**, які цікавіўся выпадкамі, калі супрацоўнікі міліцыі самі правакавалі грамадзян на правапарушэнні. Яна адмовілася не толькі прадаставіць такую інфармацыю, але і наогул размаўляць з рэпарцёрам, спаслаўшыся на занятасць.

**8 ліпеня** ў Гомелі затрымалі незалежнага журналіста **Алега Ражкова**. Яго пратрымалі ў міліцыі тры гадзіны і скапіявалі запіс з адзнятай ім відэакасеты. Рэпарцёр асвятляў вулічную акцыю прадпрымальнікаў у цэнтры горада. Адзначым, што ў выніку гвалтоўнага затрымання ў журналіста адбылося ўшчамленне пазваночнага нерва, у сувязі з чым ён з цяжкасцю хадзіў некалькі дзён.

**14 ліпеня** пракуратура Мінскай вобласці вынесла папярэджанні за «незаконную журналісцкую дзейнасць» двум сябрам БАЖ **Аксане і Аляксандру Калінкіным**. Нагода для папярэджання — іх супрацоўніцтва з расійскім **«Телеканалом благих новостей» (ТБН)** без акрэдытацыі ў Міністэрстве замежных спраў РБ.

**27 ліпеня** магілёўскі журналіст **Генадзь Суднік** быў выкліканы ў пракуратуру Шклоўскага раёна. Высветлілася, што галоўны інжынер мясцовага папяровага завода вінаваціць рэпарцёра ў распаўсюджванні праз тэлеканал **"Белсат"** і інтэрнэт няпраўдзівых звестак пра стан гэтага прадпрыемства.

**29 ліпеня** галоўны рэдактар часопіса **"Magazyn Polski na uchodzstwie" Ігар Банцар** атрымаў папярэджанне ад пракуратуры Гродзенскай вобласці. Журналіста папярэдзілі за парушэнне заканадаўства аб друку і іншых СМІ (арт. 22.9 КаАП ч. 2) — распаўсюд перыядычных друкаваных выданняў без выходных дадзеных.

**17 жніўня** журналіст польскай газеты «**Rzeczpospolita» Анджэй Пісальнік** атрымаў папярэджанне пракуратуры Гродзенскай вобласці за намер распаўсюдзіць друкаваныя СМІ без выходных дадзеных. Гаворка ідзе пра выданні не прызнанага ўладамі Саюза палякаў: часопіс «**Magazyn Polski na uchodzstwie**» і газету **«Glos znad**

**Niemna na uchodzstwie»**, якія ў чэрвені міліцыянты знайшлі ў ходзе дагляду аўтамабіля журналіста.

**15 жніўня** журналістаў расійскага тэлеканалу **НТВ Аляксея Малкава і Юрыя Бабенку** дэпартавалі з Беларусі. Рэпарцёраў, якія здымалі фільм пра зніклых палітыкаў і аператара **ОРТ Дзмітрыя Завадскага**, абвінавацілі ў працы без акрэдытацыі Міністэрства замежных спраў РБ. Увечары 14 жніўня супрацоўнікі спэцслужбаў вывелі журналістаў з нумара гатэлю. Іх пасадзілі ў фургон, вывезлі за горад, дапыталі, канфіскавалі касэты і сім-карты тэлефонаў, завезлі ў Воршу і пасадзілі на цягнік да Масквы.

**21 жніўня** магілёўская журналістка **Вольга Шарапкіна** атрымала папярэджанне ад Чавускай раённай пракуратуры «аб недапушчэнні паўторнага парушэння закона аб СМІ». Пракурор Сяргей Мінаў спачатку пацікавіўся, што яна ведае пра з’яўленне на сайце тэлеканала **«Белсат»** інфармацыі пра мясцовую школу-інтэрнат. Калі рэпарцёр адказала, што інфармацыі не бачыла і не мае да яе дачынення, пракурор уручыў ёй загадзя падрыхтаванае папярэджанне.

**29 жніўня** ў Брэсце журналісту **Зміцеру Кісялю**, які супрацоўнічае з «**Радыё Рацыя»**, патэлефанаваў дахаты незнаёмы чалавек. Ён назваўся «супрацоўнікам камітэта дзяржбяспекі Ігарам» і нагадаў журналісту, што той не мае неабходнай для працы на замежнае СМІ акрэдытацыі. Суразмоўца папярэдзіў, што неўзабаве гэтай справай зоймецца пракуратура, і параіў З. Кісялю альбо прыпыніць сваю журналісцкую дзейнасць, альбо з’ехаць у польскі Беласток, дзе знаходзіцца рэдакцыя «Радыё Рацыя».

**12 верасня** ў Гродна рэпарцёру **Івану Роману**, журналісту **Радыё «Свабода» Сяргею Астраўцову**, карэспандэнту польскай **«Rzeczpospolita» Пятру Касцінькаму** не дазволілі прысутнічаць на VII з’ездзе «афіцыйнага» Саюзу палякаў на Беларусі (СПБ).

**22 верасня** гомельскі журналіст **Алег Ражкоў** атрымаў другое папярэджанне абласной пракуратуры за супрацоўніцтва з польскім тэлеканалам **«Белсат»** без акрэдытацыі. Пракурор **Алеся Рабцава** запатрабавала ад яго тлумачэнняў да заявы галоўнага лекара абласнога псыхіятрычнага шпіталя **Віктара Маторанкі**. Апошні паскардзіўся, што А.Ражкоў разам з **Т.Бублікавай** прыйшлі ў шпіталь нібыта з бэджамі «Белсат» і папрасілі пакамэнтаваць спыненне кантракту з псыхіатрам, сябрам партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» **Сяргеем Трыфанавым**.

**23 верасня** ў кватэру берасцейскага журналіста **Зміцера Кісяля**, які супрацоўнічае з **Радыё «Рацыя»,** спрабавалі ўварвацца два чалавекі ў цывільным, якія праз дзвер сказалі, што трэба праехаць з імі ў пракуратуру. Раней рэпарцёр атрымліваў тэлефонныя пагрозы з папярэджаннямі, што будзе мець непрыемнасці, калі не спыніць журналісцкую дзейнасць.

**24 верасня** З. Кісель атрымаў вуснае папярэджанне ад пракуратуры за вядзенне журналісцкай дзейнасці без акрэдытацыі.

**25 верасня** Міністэрства замежных спраў Беларусі адмовіла ў акрэдытацыі гродзенскаму карэспандэнту **Радыё «Рацыя» Віктару Парфёненку**. Адмова абгрунтаваная пунктам 10 Палажэння аб акрэдытацыі ў РБ журналістаў замежных СМІ (раней рэпарцёр ажыццяўляў на тэрыторыі краіны дзейнасць ад імя замежнага сродка масавай інфармацыі, што і з’яўляецца фактычнай падставай для адмовы).

**28 верасня** ў Магілёве пракурорскае папярэджанне аб парушэнні арт.11 Закона «Аб СМІ» атрымаў вядомы ў горадзе тэлеаператар і фотамастак **Вадзім Аршынскі** — за супрацоўніцтва з **“Белсатам**”. Яно было дасланае рэпарцёру па пошце заказным лістом.

**30 верасня** кіраўніцтва **«Аўтарадыё»** атрымала пісьмовае папярэджанне ад Міністэрства інфармацыі Беларусі за «невыкананне творчай канцэпцыі вяшчання». Гэта адбылося пасля таго, як на хвалях радыёстанцыі пачала выходзіць праграма «ЕўраZOOM» (сумесны праект з **«Еўрарадыё»**, які рэалізуецца пад патранажам Еўракамісіі).

**7 кастрычніка** гомельская журналістка **Таццяна Бублікава** прымусова давала тлумачэнні ў Гомельскай абласной пракуратуры адносна заявы чыноўніцы мясцовага гарвыканкама **Наталлі Ратобыльскай**. Апошняя звінаваціла рэпарцёра ў тым, што тая нібыта запісала ад імя супрацоўніцы телеканала «**Белсат**» аудыёінтэрв’ю і размясціла яго ў эфіры. Пракурор вусна папярэдзіла журналістку аб адміністратыўнай адказнасці ў выпадку, калі факт супрацоўніцтва з тэлеканалам пацвердзіцца заявай наступнага чыноўніка.

**4 лістапада** стала вядома, што дырэктарцы **«Белсата» Агнешцы Рамашэўскай**, якая збіралася па запрашэнні арганізатараў Мінскага форуму XII прыехаць у Беларусь, без усялякіх тлумачэнняў адмовілі ў беларускай візе. На мерапрыемстве журналістка павінная была прысутнічаць у якасці ганаровай госці.

**25 лістапада** незалежная журналістка з Бярозы (Брэсцкая вобл.) **Тамара Шчапёткіна** атрымала афіцыйнае пракурорскае папярэджанне за працу без акрэдытацыі на **«Радыё Рацыя».** Яе выклікалі ў пракуратуру Бярозаўскага раёна павесткай як сведку. Але, калі журналістка патэлефанавала ўдакладніць, па якой справе, ёй паведамілі, што нагодай для выкліку стала яе «незаконная журналісцкая дзейнасць».

**30 лістапада** Міністэрства замежных спраў Беларусі акрэдытавала 12 журналістаў і тэхнічных працаўнікоў **«Еўрарадыё».** 11 лістапада **«Еўрарадыё»** атрымала дазвол на адкрыццё ў Беларусі карэспандэнцкага пункта тэрмінам на год.

**8 снежня** стала вядома, што беларускае МЗС адхіліла заяўку аб рэгістрацыі ў Беларусі прадстаўніцтва тэлеканала **«Белсат**». Афіцыйнай прычынай сталася тое, што пракуратура вынесла папярэджанні «шэрагу грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія працавалі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ад імя польскага тэлеканала «Белсат» пры адсутнасці акрэдытацыі МЗС».

**20 снежня** беларускае МЗС прыняла дакументы на рэгістрацыю прадстаўніцтва тэлеканала «Белсат» як часткі **Польскага тэлебачання (TVP**) у Беларусі. Гэта адбылося пасля асабістай размовы з начальніцай аддзела прэс-службы МЗС **Марыяй Ваньшынай**. Прагучала, што рашэнне наконт «Белсата» будзе прымацца на ўзроўні Савета Міністраў.

## Эканамічны ціск у сферы СМІ

**На пачатку 2009 года** 13 недзяржаўных газет грамадска-палітычнага накірунку і 1 часопіс мелі праблемы ў супрацоўніцтве з дзяржаўнымі сістэмамі распаўсюду **«Белпошта» і «Саюздрук».**

Гэта «**Новы час», «СНплюс. Свободные новости плюс», «Рэгіянальная газета», «Товарищ», «Бобруйский курьер», «Борисовские новости», «Витебский курьер-М» (з пачатку года прыпыніла выхад), «Вольнае Глыбокае», «Газета Слонімская», «Газета для вас», «Ганцавіцкі час», «Intex-press», «Нясвіжскі час». Часопіс «ARCHE»** распаўсюджваўся па падпісцы, але не прадаваўся ў кіёсках.

Большасці з іх адмаўлялі ў супрацоўніцтве і «Белпошта», і «Саюздрук».

Некаторыя выданні мелі дамовы з «Белпоштай», але не мелі з «Саюздрукам» («Бобруйский курьер», «Нясвіжскі час»), і наадварот («СНплюс. Свободные новости плюс»). Лічаныя газеты («Рэгіянальная газета» і «Газета для вас») супрацоўнічалі і з «Белпоштай», і з «Саюздрукам», але тэрыторыя іх распаўсюду меншая, чым ім хацелася б і чым гэта прадугледжана іх пасведчаннямі аб рэгістрацыі.

У канцы 2008 г. шмат якія рэдакцыі звярталіся да згаданых дзяржаўных прадпрыемстваў з прапановай аднавіць супрацоўніцтва, але сутыкнуліся з адмовамі альбо маўчаннем. Адзіны выпадак, калі хадайніцтва задаволілі — гэта сітуацыя з «Газетай для вас», пэўную колькасць асобнікаў якой з пачатку 2009 г. дазволілі прадаваць у шапіках «Саюздруку» ў Івацэвічах, Бярозе і Пружанах.

Два выданні («Рэгіянальная газета» і «Газета для вас») прасілі прадпрыемствы «Белпошты» пашырыць тэрыторыю распаўсюду па падпісцы, але атрымалі адмовы.

Са студзеня 2009 г. з эканамічных прычын, абумоўленых праблемамі з распаўсюдам і друкам, перастала выходзіць выданне «Витебский курьер-М». У лютым з гэтых жа прычын абвесціла пра часовае прыпыненне выхаду газета «Товарищ». Апошняй удалося выпусціць усяго некалькі нумароў цягам года, але пасведчанне аб рэгістрацыі выданне захавала.

Некаторыя недзяржаўныя грамадска-палітычныя выданні сутыкнуліся ў 2009 г. ў сістэмнымі перашкодамі ў працы – напрыклад, газета **«Борисовские новости»** (Мінская вобл.).

Яшчэ ў канцы 2008 года (**з 30 снежня**) Барысаўскі райвыканкам па рэкамендацыі падаткавай інспекцыі адабраў ліцэнзію на раздробны гандаль перыядычнымі выданнямі ў выдаўца газеты – прыватнага ўнітарнага прадпрыемства **«Букас медиа-центр»**.

**9 студзеня з** рэдакцыяй выдання адмовілася супрацоўнічаць прыватная друкарня **«Плутас-Маркет»** (г. Мінск), дзе газета друкавалася апошнія гады. Афіцыйна прадпрыемства спасылалася на «сусветны фінансавы крызіс». Аднак у прыватнай размове ўладальнік друкарні патлумачыў А. Букасу, што да яго прыходзілі людзі ў цывільным, якія заявілі, што, калі друкарня працягне супрацоўніцтва з “БН”, то ў яе ўзнікнуць праблемы з пажарнай службай і санэпідэмстанцыяй. У размове з прэс-службай БАЖ намеснік генеральнага дырэктара друкарні Ігар Вішнеўскі запэўніў, што прычыны скасавання дамовы з выданнем маюць выключна эканамічны характар.

Акрамя таго, ідэалагічны аддзел Барысаўскага райвыканкама, з якім мясцовыя прадпрымальнкі павінныя ўзгадняць асартыментны пералік тавараў, не дазваляў ім гандляваць **«Борисовскими новостями»**. Гэтак, індывідуальная прадпрымальніца **Святлана Волава** не змагла аформіць неабходных для працы дакументаў з-за таго, што ў асартыментным пераліку ў яе значылася гэтае выданне.

**13 студзеня** Гаспадарчы суд Мінскай вобласці прызнаў выдаўца недзяржаўнай газеты **«Борисовские новости»** — прыватнае ўнітарнае прадпрыемства **«Букас медиа-центр» -** вінаватым у «незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці» і абавязаў яго выплаціць дзяржаве больш за 48 мільёнаў рублёў (каля 18 000 долараў). Рашэнне было вынесена на падставе пратакола, складзенага ў снежні падаткавымі інспектарамі Барысаўскага раёна. У ім сцвярджалася, што ў лістападзе 2008 года падчас праверкі на Барысаўскім рынку, дзе размешчана гандлёвая кропка «Букас медиа-центр», падаткавікі зафіксавалі парушэнне — раздробны гандаль друкаванай прадукцыяй без указання ў ліцэнзіі месцазнаходжання «гандлёвага аб'екта». Як патлумачыў прэс-службе ГА «БАЖ» кіраўнік прадпрыемства і галоўны рэдактар «Борисовских новостей» **Анатоль Букас**, яго гандлёвы пункт на рынку паводле дакументаў лічыцца не «гандлёвым аб'ектам», а толькі «гандлёвым месцам», бо з'яўляецца часткай агульнай забудовы. Розніца ў тым, што гэты статус якраз не абавязвае ўказваць у ліцэнзіі месцазнаходжанне гандлёвага пункта. Тым не менш, намеснік старшыні абласнога гаспадарчага суда **Эдуард Максімовіч** не прыняў гэтага аргументу да ўвагі і прызнаў «Букас медиа-центр» вінаватым у парушэнні ч. 1 арт. 12.7 КаАП — «Незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць». Пакаранне — штраф у памеры 5 базавых велічыняў і канфіскацыя прыбытку, атрыманага ў выніку такой дзейнасці.

**23 лютага** Вышэйшы гаспадарчы суд адмяніў рашэнне суда першай інстанцыі. Аднак у хуткім часе камісія па нагляду Вышэйшага гаспадарчага суда паводле скаргі падаткавай інспекцыі адмяніла рашэнне касацыйнай інстанцыі і накіравала справу на перагляд.

**9 чэрвеня** суддзя Гаспадарчага суда Мінскай вобласці **Наталля Моластава** зноў прызнала **«Букас медиа-центр"** вінаватым у ажыццяўленні «незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці», пастанавіўшы спагнаць на карысць дзяржавы прыбытак за студзень-лістапад 2008 года. (Сума прыбытку складала 15 мільёнаў 200 тысяч рублёў.) Акрамя таго, ПУП «Букас медиа-центр» абавязалі выплаціць штраф за парушэнне заканадаўства ў памеры 175 тысяч рублёў. Акрамя праблем з распаўсюдам праз сістэмы дзяржаўных прадпрыемстваў-манапалістаў, некаторыя выданні сутыкаліся з цяжкасцямі і ў супрацоўніцтве з гандлёвымі прадпрыемствамі камерцыйнымі структурамі, на якія аказвалі ціск мясцовыя органы ўлады.

**7 ліпеня** выданне выключылі з асартыментнага пераліку крамаў прадпрыемства «ДорОрс» (належыць Беларускай чыгунцы). Дырэктарка прадпрыемства **Таццяна Заіграева** заявіла ў тэлефоннай размове з галоўным рэдактарам выдання Анатолем Букасам, што «ДорОрс» спыняе продаж газеты, але не патлумачыла прычыны раптоўнага спынення супрацоўніцтва.

А ў **кастрычніку** і **снежні** 2009 г. Барысаўскі райвыканкам адмовіўся ўзгадняць асартыменты пералік тавараў універсамаў "Веста" і «Алмі», з якімі рэдакцыя заключыла дамову на рэалізацыю выдання. Раённыя чыноўнікі запатрабавалі, каб крамы прадаставілі пісьмовы дазвол ад Міністэрства інфармацыі на продаж выдання.

**У студзені 2009 года** супрацоўнікі кіёскаў РУП «Белсаюздрук» адмовіліся прымаць на рэалізацыю дадатковыя нумары недзяржаўнай газеты **«Народная воля»**,

спасылаючыся на высокі працэнт спісання выдання. Галоўны рэдактар газеты **Іосіф Сярэдзіч** заявіў, што звесткі кіяскёраў наконт спісання – неаб'ектыўныя: па яго інфармацыі, за снежань 2008 г. працэнт спісання «Народнай волі» склаў усяго 0,052. Журналіст сцвярджае, што на фоне працэнта спісання дзяржаўных газет гэта вельмі малы паказчык. Прадаставіць журналістам канкрэтныя лічбы датычна спісання дзяржаўных газет у «Белсаюздруку» адмовіліся, заявіўшы, што гэта інфармацыя ўнутранага карыстання. Па стане на студзень 2009 г. ў Мінску прадавалася каля 4000 асобнікаў «Народнай Волі», але І. Сярэдзіч упэўнены, што аб'ёмы продажу маглі б быць удвая большымі.

**На пачатку студзеня 2009 г.** рэдакцыі **"Нашай Нівы"** адмовілі ў размяшчэнні рэкламна-інфармацыйных плакатаў фармату А4 у вагонах сталічнага метро. Яшчэ ў снежні 2008 г. журналісты звярнуліся ў рэкламную службу метро, аднак там іх адправілі па ўзгадненне ў ідэалагічны аддзел гарвыканкама. У студзені начальнік аддзела грамадска-масавых мерапрыемстваў упраўлення ідэалагічнай работы Мінгарвыканкама **Эдуард Тамільчык** заявіў рэдакцыі, што рэкламныя плошчы на студзень ў метро адсутнічаюць. У той жа час, у рэкламнай службе метро паведамілі, што рэкламныя плошчы ёсць.

**12 студзеня** адмовілася заключаць дамову на распаўсюд праз кіёскі газеты **«Intex-press»** ТРУП «Брэстаблсаюздрук». Намесніца дырэктара прадпрыемства **Таццяна Зіневіч патлумачыла ў лісце**, што ў сувязі з перагружанасцю сеткі «Брэстаблсаюздруку», а таксама на падставе арт. 391 Грамадзянскага Кодэксу РБ, заключыць дамову з газетай не прадстаўляецца магчымым. Гэты адказ прыйшоў у газету праз паўтара месяцы пасля запыту – рэдакцыя накіроўвала лісты ў «Брэстаблсаюздрук» і РУП «Белпошта» 28 лістапада 2008 г., пасля вяртання ў сістэмы распаўсюду газет **«Наша Ніва»** и **«Народная воля».** Ад РУП «Белпошта» пісьмовага адказу ўвогуле не прыйшло. **12 студзеня** ў тэлефоннай гутарцы з юрысконсультам ТАА «Выдавецкі дом «Інтэкс-прэс» **Аленай Шостак** начальніца аддзелу падпіскі РУП «Белпошта» **Марыя Вараб'ёва** сказала, что ёй не зразумела, чаму газета зноў звярнулася з прапановай заключыць дамову. "Калі б нешта змянілася, мы б самі вам патэлефанавалі", - падкрэсліла М. Вараб'ёва.

Гэткі ж вынік мелі і спробы чытачоў заступіцца за недзяржаўныя выданні перад перадпрадпрыемствам-манапалістамі.

**На пачатку лютага** сябра Рады Руху «За Свабоду» **Алесь Зарэмбюк** (г. Масты Гродзенскай вобл.) атрымаў адказ на свой зварот да генеральнага дырэктара «Белпошты» **Аляксандры Чарняк** з просьбай уключыць газеты **«Новы Час»** і **«Газета Слонімская»** ў падпісны каталог. Спн. Чарняк адмовілася гэта рабіць, спасылаючыся на Канстытуцыю: «Арт. 58 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь гаворыць: „Ніхто не можа быць прымушаны выконваць абавязкі, якія не прадугледжаны Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і яе законамі, або адмовіцца ад сваіх правоў". Паколькі заканадаўства не абавязвае ўключаць друкаваныя выданні ў каталог, выбар друкаваных выданняў для фармавання каталога з мэтай наступнага іх распаўсюджвання праз падпіску з'яўляецца правам РУП „Белпошты", якое рэалізуецца ім у адпаведнасці з заканадаўствам», — гаварылася ў адказе на зварот. Аналагічны адказ ад спн. Чарняк атрымалі ў лютым барысаўскія сябры Руху «За Свабоду» **Алег Мацкевіч** і **Сяргей Салаш** на свой запыт пра распаўсюд газеты **«Борисовские новости»**.

**У сакавіку** 2009 г. змянілася кіраўніцтва РУП «Белпошта» - на змену Аляксандры Чарняк на пасаду генеральнага дырэктара прадпрыемства прыйшоў **Юрый Комар**. Тым не менш, вынік звароту да яго шэрагу выданняў наконт распаўсюду быў той самы.

Ужо **12 сакавіка** ён адмовіўся ўключыць у падпісны каталог на 2-е паўгоддзе 2009 года рэгіянальныя выданні "Газета Слонімская" і "Отдушина", традыцыйна спаслаўшыся на «немэтазгоднасць».

**22 сакавіка** рэдактар і выдавец газеты «Вольнае Глыбокае» **Уладзімір Скрабатун** атрымаў чарговы ліст ад кіраўніцтва «Белпошты», дзе сцвярджалася, што ўключаць выданне ў падпісны каталог «немэтазгодна», а адбор выданняў для каталогу з'яўляецца правам РУП «Белпошта». Ліст да кіраўніцтва «Белпошты У. Скрабатун напісаў паводле парады кіраўніка Глыбоцкага раённага вузла сувязі **Алега Пучкоўскага**, да якога ён звярнуўся перад гэтым.

**10 красавіка** рэдакцыя недзяржаўнай грамадска-палітычнай газеты **«Бобруйский курьер»** атрымала ліст за подпісам кіраўніцы Бабруйскага аддзялення РУП «Белпошта» **Ніны Шэлех**, якая паведаміла, што дамова на рэалізацыю выдання праз паштовыя аддзяленні горада і раёна скасоўваецца з 1 траўня 2009 г. «у сувязі з нізкім узроўнем продажу». Літаральна за дзесяць дзён да гэтага галоўны рэдактар «БК» **Анатоль Санаценка** атрымаў з таго ж паштовага прадпрыемства на подпіс дакументы аб працягу дамовы на рэалізацыю газеты. Ён падпісаў іх і адаслаў для ўзгаднення другому боку.

**22 траўня** чарговы VII З'езд ГА "БАЖ" прыняў зварот да прэм'ер-міністра Беларусі Сяргея Сідорскага з нагоды адмоваў дзяржаўных прадпрыемстваў-манапалістаў распаўсюджваць недзяржаўныя выданні. "Адмовы на распаўсюджанне недзяржаўных газет, як правіла, тлумачаць эканамічнымі прычынамі, - гаварылася ў звароце. - Аднак шмат якія з выданняў, якія выключаныя з падпісных каталогаў і не прадаюцца ў кіёсках «Саюздруку», уваходзілі ў лік лідэраў продажу ў сваіх рэгіёнах. Адмова прадпрыемстваў «Белпошта" і «Саюздрук» ад рэальных грошай ва ўмовах эканамічнага крызісу выклікае неразуменне, як і спроба спаслацца на свабоду суб' ектаў гаспадарання ў заключэнні дамоваў. Тое, што адбываецца, прыводзіць да высновы пра свядомую эканамічную і прававую дыскрымінацыю недзяржаўнай грамадска-палітычнай прэсы".

**4 чэрвеня** адбылося другое па ліку пасяджэнне Грамадскай каардынацыйнай рада ў сферы масавай інфармацыі, створанай восенню 2008 г., у якую ў студзені 2009 г. **прапанавалі ўвайсці некалькім прадстаўнікам недзяржаўных СМІ**, у тым ліку старшыні ГА "БАЖ" **Жанне Літвіной, галоўнаму рэдактару "Народнай волі" Іосіфу Сярэдзічу і галоўнай рэдактарцы газеты ""Комсомольская правда" в Белоруссии" Алене Міронавай**. З ініцыятывы Жанны Літвіной рада разгледзела пытанне вяртання шэрагу недзяржаўных друкаваных СМІ ў дзяржаўную сістэму распаўсюду. У выніку сябры рады вырашылі накіраваць кіраўнікам прадпрыемстваў "Белпошта" і "Саюздрук", а таксама кіраўнікам рэдакцый, у якіх існуюць праблемы з распаўсюдам, з рэкамендацыяй яшчэ раз абмеркаваць магчымасці супрацоўніцтва.

**У канцы чэрвеня-пачатку ліпеня** шэраг рэдакцый паведамілі, што атрымалі такія лісты з подпісам кіраўніка Грамадскай рады Паўла Якубовіча. У лістах гаварылася, што рада «прыняла рашэнне рэкамендаваць кіраўніцтву гандлёвага рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства….. сумесна з кіраўніцтвам рэдакцыі газеты… *(назвы прадпрыемстваў і выданняў змяняюцца — заўв. БАЖ)* вярнуцца да разгляду пытанняў, звязаных з распаўсюдам прадукцыі ўказанага сродку масавай інфармацыі».

Рэдакцыі адразу ж пачалі звязвацца з прадстаўнікамі сістэм «Саюздрук» і «Белпошта».

**Лічаным выданням удалося дабіцца станоўчых зрухаў.**

**Гэтак,** пэўны прагрэс абазначыўся ў перамовах галоўнага рэдактара **«Вольнага Глыбокага» Уладзіміра Скрабатуна з** «Віцебскаблсаюздрукам» - у тэлефоннай гутарцы супрацоўнікі прадпрыемства выказалі гатовасць вярнуцца да абмеркавання гэтага пытання. Праўда, да продажу ў кіёсках выданне змагло вярнуцца толькі **ў лістападзе 2009 г. -** з прычыны таго, што У. Скрабатун быў заняты перарэгістрацыяй формы ўласнасці газеты. З «Белпоштай» супрацоўніцтва ў 2009 г. так і не аднавілася – у канцы снежня ў Глыбоцкім раённым вузле паштовай сувязі газеце параілі наўпрост звяртацца па гэтым пытанні да Віцебскага філіялу «Белпошты», і У. Скрабатун накіраваў туды ліст, але адказу не дачакаўся.

**2 ліпеня** галоўны рэдактар **«Бобруйского курьера» Анатоль Санаценка** паразмаўляў з намесніцай кіраўніка ААТ «Магілёўсаюздрук» і папярэдне дамовіўся пра аднаўленне супрацоўніцтва. (Раней рэдакцыя вяла перамовы з Бабруйскім гарадскім аддзяленнем «Магілёўсаюздруку», і той адмаўляўся супрацоўнічаць з выданнем. Цяпер яго паўнамоцтвы перайшлі да абласной структуры). **8 ліпеня** дамова з ТАА «Магілёўсаюздрук» была падпісаная, і з **15 ліпеня** газету зноў пачала прадавацца ў кіёсках горада.

Зрушыла з месца - праўда, толькі ў самым канцы 2009 г. - і сітуацыя з раздробным продажам газеты **«Ганцавіцкі час». 7 снежня выданне атрымала** ад Брэсцкага філіяла РУП «Белпошта» ліст, дзе паведамлялася, што для ўключэння ў падпісны каталог рэдакцыі неабходна прадаставіць інфармацыю пра выданне, а таксама пералічыць 274 тысячы рублёў. (Рэдакцыя ўсё зрабіла, але ні ў канцы 2009, ні на пачатку 2010 г. ў каталогах газеты не з'явілася. Супрацоўнікі РУП «Белпошта» запэўнівалі, што праблема тэхнічная, звязаная са складаннем новага каталогу. Дамову з РУП "Брэстаблсаюздрук" на продаж выдання ў кіёсках рэдакцыя заключыла толькі ў канцы студзеня 2010 г.)

З астатнімі выданнямі сітуацыя засталася нязменнай.

**Такім чынам, у канцы 2009 – пачатку 2010 г. становішча з распаўсюдам выданняў са складзенага БАЖ "спісу 13-і" выглядала наступным чынам:**

**«Бобруйский курьер»** — **вярнулася ў кіёскі** ў ліпені 2009 г., у падпісцы ёсць.

**«Борисовские новости»** — **няма** ні ў падпісцы, ні ў продажы.

**«Витебский курьер-М»** — спыніў выхад і страціў рэгістрацыю. Своеасаблівай спадкаемцай стала зарэгістраваная ў Расіі газета **«Витебский курьер»**. (Праўда, у спадчыну да газеты перайшлі і яе **праблемы з распаўсюдам**).

**«Вольнае Глыбокае»** — з лістапада **вярнулася ў кіёскі**, у падпіску — пакуль не. (У снежні звярнулася ў Віцебскі філіял «Белпошты», але адказу няма дагэтуль.)

**«Газета для вас»** — у кіёскі вярнулася з 2009 года, у раённай падпісцы ёсць, але застаецца праблема — выданне **імкнецца пашырыць тэрыторыю распаўсюду** (акрамя Івацэвіцкага, хоча распаўсюджвацца праз падпіску ў Бярозаўскім, Пружанскім і Драгічынскім раёнах Брэсцкай вобласці), і рэдактарка Лідзія Цалуйка звярталася з гэтай нагоды ў РУП «Белпошта», але адказу дагэтуль не дачакалася.

**«Газета Слонімская»** — **няма** ні ў падпісцы, ні ў продажы.

**«Ганцавіцкі час»** — прынцыповая згода наконт вяртання ў сістэмы распаўсюду была дасягнутая, але дакументальнага пацвярджэння гэтаму не было.

**«Intex-press»** — **няма** ні ў падпісцы, ні ў кіёсках.

**«Нясвіжскі час»** — у падпісцы ёсць, у кіёсках — **не**.

**«Новы час»** — няма ні ў падпісцы, ні ў продажы.

**«Рэгіянальная газета»** — у продажы ў кіёсках ёсць, у падпісцы — толькі па Мінскай вобласці. Газета хоча ўвайсці ў рэспубліканскі каталог і звярталася з гэтай нагоды ў РУП «Белпошта», але ў кастрычніку 2009 г. атрымала адмову са спасылкай на «немэтазгоднасць» супрацоўніцтва.

**«СНплюс. Свободные новости плюс»** — у кіёсках ёсць, у падпісным каталогу няма.

**«Товарищ»** — няма ні ў падпісцы, ні ў продажы, друкуецца за мяжой (у Смаленску), выхад прыпынены (апошні нумар выйшаў у лістападзе 2009 г.)

Нязменнай застаецца сітуацыя з распаўсюдам часопіса **«ARCHE»** (зарэгістраваны як грамадска-палітычны, навукова-папулярны і літаратурна-мастацкі): ён распаўсюджваецца па падпісцы, але не прадаецца ў кіёсках.

Да спісу «праблемных» сёлета дадалася таксама слонімская газета **«Отдушина»**, якую выдае калектыў «Газеты Слонімскай». Раней «Отдушина» распаўсюджвалася як дадатак да «ГС», але цяпер існуе як самастойная газета (сёлета прайшла перарэгістрацыю як грамадска-палітычнае выданне) і не можа трапіць ні ў падпіску, ні ў кіёскі.

**Не распаўсюджваюцца ні «Белпоштай», ні «Саюздрукам» наступныя газеты, зарэгістраваныя Міністэрствам інфармацыі РБ:**

1.«Борисовские новости»

2. «Газета Слонімская»

3. «Intex-press»

4. «Новы час»

5. «Отдушина»

6. «Товарищ»

**Распаўсюджваюцца альбо толькі «Белпоштай», альбо толькі «Саюздрукам», альбо на абмежаванай тэрыторыі:**

1. «Вольнае Глыбокае»

2. «Газета для вас»

3. «Нясвіжскі час»

4. «Рэгіянальная газета»

5. «СНплюс. Свободные новости плюс»

(+ часопіс «ARCHE»)

**Некалькі разоў на працягу 2009 г. да журналісаў траплялі доказы таго, што дзяржаўныя СМІ знаходзяцца ў прывілеяваным становішчы ў параўнанні з недзяржаўнымі.**

**Па-першае, восенню 2009 г. кіраўнік дзяржавы падпісаў два ўказы, якімі працянуў вызваленне ад уплаты падаткаў шэрагу нацыянальных тэлеканалаў.**

**25 верасня** Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ №478 **«Аб дзяржаўнай падтрымцы тэлерадыёкампаній»**, якім вызваліў ЗАТ **«Другі нацыянальны тэлеаканала»(ОНТ) і ЗАТ «Сталічнае тэлебачанне» (СТВ)** з 1 кастрычніка 2009 года па 31 снежня 2012 г. ад уплаты падаткаў на прыбытак і дададзеную вартасць. Акрамя таго, указам рэкамендавана Мінгарвыканкаму вызваліць СТВ ад уплаты мясцовых падаткаў. Паводле дакумента, тэлеканалы мусяць патраціць сродкі на развіццё тэхнічнай базы, закупку правоў на тэлетрансляцию і стварэнне ўласных перадач. Рашэнне аб падаўжэнні афшорнага статусу тэлеканалаў было выклікана не крызісам – СТВ атрымаў яго ў 2003 г. (указ №92 ад 11 сакавіка 2003 г.), які ў 2006 г. быў падоўжаны да канца 2009 г. ОНТ атрымаў дзяржпадтрымку ў 2007 г. (указ №6 ад 5 студзеня 2007 г.).

**23 кастрычніка** Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ № 523 **«Аб некаторых пытаннях падаткаабкладання Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі»**. Паводле дакумента, тэлерадыёкампанія і арганізацыі, якія ўваходзяць у яе склад (а гэта абласныя **тэлерадыёкампаніі «Гомель», «Віцебск», «Гродна», «Брэст», «Магілёў»**), з 1 кастрычніка 2009 г. да 31 снежня 2012 г. вызваляюцца ад уплаты падаткаў на прыбытак і на дададзеную вартасць (за выключэннем падатку на дададзеную вартасць, які бярэцца пры ўвозе тавараў на мытную тэрыторю РБ). Сродкі, вызваленыя ў выніку прадастаўлення згаданых ільгот, накіроўваюцца на развіццё вытворчай базы, набыццё правоў трансляцыі аўдыёвізуальных твораў, стварэнне ўласных перадач. Персанальную адказнасць за мэтавае выкарыстанне сродкаў нясе старшыня Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі і кіраўнікі абласных структур, што ўваходзяць у яе склад. Пры нямэтавым выкарыстані згаданых сродкаў падаткі будуць спаганяцца ў адпаведнасці з заканадаўствам.

**Васіль Зданюк**, рэдактар нацыянальнай газеты **«СНплюс. Свободные новости плюс», пракаментаваў сітуацыю наступным чынам:** «І раней нельга было казаць пра роўныя эканамічныя ўмовы дзейнасці для дзяржаўных і недзяржаўных СМІ, а зараз — тым больш. Буйное прадпрыемства з дзяржаўнай формай уласнасці вызваляецца ад падаткаў — гэта вельмі істотнае скарачэнне выдаткаў для суб'екта гаспадарання. Калі б нашу газету — прыватнае прадпрыемства — на тры гады вызвалілі ад падаткаў, мы маглі б амаль 50% ад заробленага накіраваць на развіццё выдання. Гэта падкрэслівае, што ў Беларусі сёння зусім не роўныя ўмовы існавання для медыяў. Улады трымаюць у „чорным целе“ недзяржаўныя СМІ, а дзяржаўныя „падкормліваюць“ усімі магчымымі сродкамі».

**Акрамя таго, да журналістаў неаднаразова траплялі дакументы, якія сведчаць аб ужыванні адміністратыўнага рэсурсу ў часе правядзення падпіскі на дзяржаўную прэсу**

**У сярэдзіне сакавіка** кіраўнікі дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў Слоніма (Гродзенская вобл.) атрымалі ліст ад галоўнага рэдактара дзяржаўнай раённай газеты **«Слонімскі веснік» Марыі Данюк** з просьбай аформіць на гэтае выданне індывідуальную падпіску кожнаму супрацоўніку. «За кошт работнікаў, прафкама альбо арганізацыі», — пазначалася ў лісце. Як паведамлялася ў звароце, гэта робіцца «з мэтай

выканання распараджэння кіраўніка раёна Іосіфа Паўлюкевіча і рэалізацыі рэспубліканскай і раённай праграм развіцця дзяржаўнай газеты “Слонімскі веснік” па забеспячэнні падпіснога накладу на 2-і квартал 2009 г.». Да 25 сакавіка кожнаму кіраўніку дзяржустановаў прадпісвалася пісьмова праінфармаваць ідэалагічны аддзел райвыканкама, пералічыўшы колькасць работнікаў калектыву і колькасць падпісчыкаў на «Слонімскі веснік».

**15 снежня** галоўнаму рэдктару недзяржаўнай газеты **«Бобруйский курьер» Анатолю Санаценку** патэлефанавалі з мясцовай падаткавай інспекцыі і ў катэгарычнай форме сталі патрабаваць падпісацца на часопіс **«Налоги Беларуси»** (выданне Міністэрства па падатках і зборах РБ). Паводле інспектара, ад падаткавікоў зараз патрабуюць забеспячэння падпіскі на гэтае выданне ўсіх суб’ектаў гаспадарання. У адказ на гэта Анатоль Санаценка выступіў з сустрэчнай прапановай — забяспечыць падпіску падаткавых інспекцый на «Бобруйский курьер». Загадны тон, у якім падаткавікі дазваляюць сабе размаўляць з прыватнымі прадпрыемствамі, нібыта прымусовая падпіска — гэта нармальна, мяне абурыў. Пра што я і заявіў сваёй суразмоўцы», — зазначыў у гутарцы са службай маніторынгу БАЖ Анатоль Санаценка.

**15 снежня** начальнік ідэалагічнага аддзела Слонімскага райвыканкама **Ігар Лапікаў** разаслаў ліст кіраўнікам упраўленняў і аддзелаў выканкама з просьбай да 24 снежня прадаставіць звесткі аб падпісцы працаўнікоў на **«Советскую Белоруссию»** і **«Слонімскі веснік»** «для далейшай праверкі дадзеных праз вузел сувязі і прадастаўлення інфармацыі старшыні Слонімскага райвыканкама». У яшчэ адзін спіс мусяць патрапіць працаўнікі выканкама, якія не падпісаліся на гэтыя газеты. Копія дакумента трапіла да журналістаў і была распаўсюджана ў СМІ.

**16 снежня** начальніца аддзелу рэкламы газеты **«Бобруйский курьер» Лілія Санаценка** патэлефанавала ў ААТ «Красный пищевик» з прапановай размясціць у газеце рэкламу гэтага бабруйскага прадпрыемства. У прафкаме адказалі, што яны не супраць, але трэба ўзгадніць пытанне з ідэолагам прадпрыемства. **17 снежня** Лілія Санаценка звярнулася з тым жа пытаннем да ідэолага «Красного пищевика». У адказ прагучала: «Наша» газета — **«Бабруйскае жыццё»**. А яшчэ гарадское радыё (*у абодвух заснавальнік — Бабруйскі гарвыканкам — заўв. рэд.*) Так нам загадаў гарвыканкам. І з іншымі СМІ мы не працуем…»

**18 снежня** старшыня Вілейскага райвыканкама (Мінская вобл.) распаўсюдзіў аналагічны дакумент, у якім запартабаваў ад дырэктараў мясцовых прадпрыемстваў тэрмінова «аднавіць наклад» газеты **«Советская Белоруссия»** на 1 паўгоддзе 2010 г. па ведамаснай падпісцы. Копія гэтага дакумента таксама аказалася ў распараджэнні журналістаў. Дырэктар даў 6 дзён, каб выканаць загад раённага начальства - дакласці пра вынікі зробленай працы трэба было да 14.00 24 снежня. Акрамя таго, усім кіраўнікам прадпрыемстваў было прадпісана забяспечыць у калектывах падпіску на раённую газету **«Шлях перамогі»**.